# Я СТВАРАЮ НЯЎРАДАВУЮ АРГАНІЗАЦЫЮ Ў ПОЛЬШЧЫ

## ДАВЕДНІК ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ

Варшава
2012



Варшава, 2012

Публікацыя з'яўляецца плёнам Працоўнай групы па пытаннях Беларусі ў рамах групы "Замежжа".




Кантакт:
Група "Замежжа"
вул. Літэфска, 11/13, оф. 96
00-589 г. Варшава
*(Grupa Zagranica*
*ul. Litewska 11/13 lok. 96*
*00-589 Warszawa)*
*www.zagranica.org.pl*

Канцэпцыя і распрацоўка: Група "Замежжа" (Ян Стшэлецкі)
Рэдакцыя: Таварыства "Клён/ явар" (Рэната Нецікоўска), кансультацыя з Інфармацыяй для няўрадавых арганізацый (Эва Вольдан)
Уступ: Юры Чавусаў
Пераклад з польскай мовы – Марыя Луцэвіч-Напалкава
Набор і вёрстка: Тасья Пулаўская

Тэксты II-VIII раздзелаў распрацаваныя на падставе сайта poradnik.ngo.pl; брашур серыі "3w*" ("Warto Wiedzieć Więcej" – "Варта ведаць больш"), выдадзеных таварыствам "Клён/ явар", ды заўваг, сабраных падчас інтэрв'ю з іншаземцамі, якія заснавалі ці засноўваюць арганізацыю ў Польшчы і згадзіліся падзяліцца сваім досведам з чытачамі гэтага даведніка.




Таварыства "Клён/ явар"
Партал няўрадавых арганізацый ngo.pl
вул. Шпітальна, 5/5, 00-031 г. Варшава (*ul. Szpitalna 5/5, 00-031 Warszawa*)
тэл. 22 828 91 28, факс 22 828 91 29
электронны адрас: info@ngo.pl, інфалінія: 801 646 719

Юрыдычны стан на 1.02.2012

Праект ажыццяўляецца пры фінансавай падтрымцы пасольства Каралеўства Нідэрландаў у рамах праграмы "МАТРА".



Kingdom of the Netherlands

# Я СТВАРАЮ НЯЎРАДАВУЮ АРГАНІЗАЦЫЮ Ў ПОЛЬШЧЫ

## ДАВЕДНІК ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ

**Юрыдычны стан на 1.02.2012**

ЗМЕСТ

**СЛОЎНІК ВЫКАРЫСТАНЫХ У ТЭКСЦЕ СКАРОТАЎ:**
КРС (пол. *KRS – Krajowy Rejestr Sądowy,)* – Агульнапольскі судовы рэестр (рэгістравы суд)
НІП (пол. *NIP – Numer Identyfikacji Podatkowej*) – Нумар падатковай ідэнтыфікацыі ў Рэспубліцы Польшча (РП)
РЭГОН (пол. *REGON – Rejestr Gospodarki Narodowej*) – статыстычны нумар гаспадарчага суб'екта ў Рэестры нацыянальнай эканомікі РП
ПЭСЭЛЬ (пол. *PESEL – Powszechny Elektroniczny System Ewidencji Ludności*) – нумар у Агульнай электроннай сістэме ўліку насельніцтва ў РП, што ідэнтыфікуе асобу, якая жыве ў Польшчы: польскага грамадзяніна ці іншаземца са сталай ці часовай прапіскай (больш за 3 месяцы), які мае карту побыту.
ОПП – скарот ад польскага акрэслення "*OPP – organizacja, mająca status organizacji pożytku publicznego*" – арганізацыя, што мае статус карыснай грамадству арганізацыі (яго надае КРС)
ГУС (*GUS* – Główny Urząd Statystyczny) – Галоўнае статыстычнае ўпраўленне
"МСіГ" (*MSiG – Monitor Sądowy i Gospodarczy*) – "Монітор сондовы і господарчы"

# I. УСТУП

## Рэгістрацыя беларускіх няўрадавых арганізацый за мяжой: чым яна выклікана і што яна дае?[1]

*Юры Чавусаў*
юрыст Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацый Беларусі[2]

### Беларускія НДА растуць у неспрыяльным клімаце

Умовы для дзейнасці няўрадавых арганізацый у Беларусі з'яўляюцца вельмі неспрыяльнымі вось ужо больш за пятнаццаць гадоў. Прычына палягае ў агульным стаўленні беларускіх улад да структур грамадзянскай супольнасці: цяперашні беларускі рэжым прымае ў грамадскіх аб'яднаннях амаль выключна інспіраваныя і кантраляваныя ўладамі асацыяцыі, створаныя дзяржавай па таталітарнай мадэлі савецкіх часоў. Безумоўна, актуальнаму аўтарытарнаму рэжыму ў Беларусі далёка да таталітарнага характару – але агульнае стаўленне да грамадскіх аб'яднанняў беларускія чыноўнікі грунтуюць акурат на таталітарным бачанні грамадства, у якім няма месца сапраўднай грамадзянскай супольнасці.
Усе незалежныя ад дзяржаўнай улады ініцыятывы і групы ўспрымаюцца беларускімі ўладамі з насцярогай, і вельмі часта ідэнтыфікуюцца імі, як частка палітычнай апазіцыі. Зрэшты, вялікая колькасць няўрадавых арганізацый насамрэч працуе на карысць дэмакратызацыі і абуджэння грамадзянскай свядомасці ў грамадстве – і ў гэтым сэнсе праваабарончыя, дабрачынныя і сацыяльныя, культурніцкія аб'яднанні сапраўды з'яўляюцца палітычна несумяшчальнымі з той мадэллю дзяржаўнай пабудовы, якая рэалізуецца ў Беларусі пры прэзідэнце Лукашэнку.
Паказальна, што прыкметай пераследу няўрадавых арганізацый часта з'яўляецца не накірунак дзейнасці асацыяцый, а менавіта іх незалежны ад дзяржавы стан. Акурат таму ўлады Беларусі практыкуюць стварэнне своеасаблівых арганізацый-дублёраў, якія знаходзяцца пад кантролем выканаўчай улады і пакліканыя да жыцця для таго, каб выцясняць сапраўды незалежныя асацыяцыі. Напрыклад, у якасці альтэрнатывы незалежнаму Саюзу беларускіх пісьменнікаў быў створаны падкантрольны дзяржаве Саюз пісьменнікаў Беларусі, а з незалежнай Беларускай асацыяцыяй журналістаў канфрантуе прадзяржаўны Саюз журналістаў. Прыкладаў падобнага дублявання безліч.
Найбольш яскрава гэтая тэндэнцыя праявілася ў сферы моладзевай палітыкі, дзе інспіраваны і фінансава падтрыманы дзяржавай Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі заняў манапольнае становішча, а ўсе астатнія маладзёжныя структуры былі вымушаныя стаць ягонымі васаламі. Тыя, хто не прыняў такой мадэлі стасункаў, стукнуліся з пераследам, ажно да поўнай юрыдычнай ліквідацыі, як напрыклад, здарылася з Рэспубліканскай радай маладзёжных і дзіцячых аб'яднанняў, Маладзёжным хрысціянска-сацыяльным саюзам, Маладзёжным інфармацыйным цэнтрам і шматлікімі іншымі рэспубліканскімі і мясцовымі аб'яднаннямі.

### Праблема (не)рэгістрацыі

Істотна, што неспрыяльны прававы клімат і варожае стаўленне ўлад да незалежных ініцыятыў не толькі ствараюць праблемы ў дзейнасці незалежных грамадскіх аб'яднанняў у сферы іх паўнамоцтваў, пазбаўляюць іх магчымасці атрымання ахвяраванняў і ўскладняюць падаткаабкладанне. Дзяржава стварае перашкоды ўжо нават для самога стварэння грамадскіх аб'яднанняў. Рэгіструючыя органы – Міністэрства юстыцыі для рэспубліканскіх і міжнародных грамадскіх аб'яднанняў і абласныя ўпраўленні юстыцыі для мясцовых грамадскіх аб'яднанняў – пераўтварыліся ў органы "нерэгіструючыя". Сапраўды, некаторыя арганізацыі дзесяцігоддзямі беспаспяхова намагаюцца атрымаць статус юрыдычнай асобы, год за годам сутыкаючыся з адмовамі. Такія арганізацыі, як праваабарончае аб'яднанне "Берасцейская вясна" атрымалі больш за дзесятак адмоваў!
Дазвольны (а не заяўляльны, як прынята ў Еўропе) парадак атрымання статусу юрыдычнай асобы з'яўляецца сур'ёзным бар'ерам для стварэння новых грамадскіх аб'яднанняў. Акрамя істотнай пошліны, праблема палягае і ў колькасных паказчыках складу заснавальнікаў. Надзвычай абмежавальнай з'яўляецца норма, згодна з якой для стварэння рэспубліканскага грамадскага аб'яднання трэба мець не менш за 50 заснавальнікаў (з іх не менш за дзесяць павінныя пражываць у Менску ды ў чатырох з шасці абласцей Беларусі). Патрэба мець для любой, нават самай маленькай некамерцыйнай арганізацыі, юрыдычны адрас (а значыць – арэндаванае офіснае памяшканне), зрабілася непераадольным бар'ерам для сотняў ініцыятыў у атрыманні імі легальнага статусу. Надзвычай неадназначныя трактоўкі падзаконных палажэнняў

і інструкцый, што рэгулююць пытанні рэгістрацыі, з аднаго боку, вельмі заблытаныя і падрабязныя (рэгламентуецца нават памер шрыфта, якім мусяць быць напісаныя дакументы), а з іншага боку, у іх шмат прабелаў, недагавораных момантаў, яны пакідаюць шмат прасторы для падвойных інтэрпрэтацый.
Як падаецца, такая сістэма была створаная наўмысна для таго, каб рэгіструючы орган мог ў любым выпадку пры наяўнасці палітычнай мэтазгоднасці вынесці рашэнне аб адмове ў рэгістрацыі. З пачатку 2000-х гадоў суды Беларусі, дзе такая адмова можа быць абскарджаная, не задавальнялі скаргаў заснавальнікаў новых аб’яднанняў, што сутыкнуліся з адмовамі ў рэгістрацыі. У 2010 годзе такая сыстэма палітычнай цэнзуры была фактычна замацаваная на заканадаўчым узроўні праз унясенне зменаў у закон “Аб грамадскіх аб’яднаннях”: цяпер любая памылка альбо недакладнасць у дакументах можа стаць падставай адмовы ў рэгістрацыі.
“Не пазначаны працоўны тэлефон аднаго з заснавальнікаў”, “Памяшканне для ўстаноўчага схода было замалое”, “Са статута нельга зразумець, чым арганізацыя збіраецца займацца”, “Заснавальнікі раней прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасці, а значыць збіраюцца выкарыстоўваць арганізацыю для парушэння закона”, “Адзін з дакументаў складзены шрыфтам, які на пункт адрозніваецца ад устаноўленага інструкцыяй памеру шрыфта”, “У аднаго з заснавальнікаў няправільна пазначаная дата нараджэння” і г. д. – гэта ўсё не кафкіянскія фантазіі, а рэальныя прыклады тых прававых абставін, што кладуцца органамі юстыцыі ў падмурак рашэнняў аб адмове ў рэгістрацыі.
Зрэшты, да любога, нават драконаўскага заканадаўства можна было б прыстасавацца. Калі ў Беларусі знікла рэальная магчымасць стварыць грамадскае аб’яднанне – новыя ініцыятывы сталі легалізавацца ў выглядзе іншых форм некамерцыйных арганізацый, такіх як фонды і ўстановы. Але і ў гэтым накірунку хутка магчымасці былі звужаныя, у тым ліку, і без змянення заканадаўства. Справа ў тым (і гэта галоўная праблема ў стасунках паміж новымі ініцыятывамі і рэгіструючымі органамі), што працэс рэгістрацыі не з’яўляецца прававой, фармалізаванай працэдурай – гэта працэс палітычны, прычым адбываецца ён у неправавой дзяржаве. Сотні арганізацый не могуць атрымаць статус юрыдычнай асобы, таму што не праходзяць сіта палітычнай цэнзуры.

**Праблема-$193^1$**

Калі казаць сухой мовай статыстыкі, то штогод у Беларусі рэгіструецца прыкладна сто альбо трохі болей грамадскіх аб’яднанняў. Але пры гэтым агульная іх колькасць не расце – органы юстыцыі праз адмовы ў рэгістрацыі і прымусовыя ліквідацыі трымаюць гэты паказчык у межах 2200-2300 арганізацый на ўсю краіну, што надзвычай мала па мерках нашай часткі свету. Гэта дазваляе казаць пра тое, што рэгістрацыйны бар’ер прыводзіць да стагнацыі грамадзянскага сектара, вымушаючы вялікую яго частку існаваць прыхавана, без атрымання статуса юрыдычнай асобы, з аглядкай на карныя органы і, у рэшце рэшт, з меншым кантактам з насельніцтвам. Недзе да сярэдзіны 2000-х такая схема працавала: няўрадавыя арганізацыі дзейнічалі ў форме ініцыятыў, кампаній, кааліцый – а дзяржаўныя органы іх папросту не заўважалі. Але ў пэўны момант раўнавага была парушаная.
Як такая дзейнасць незарэгістраваных грамадскіх аб’яднанняў была забароненая ў Беларусі з 1999 года. Адказнасць за дзейнасць незарэгістраваных арганізацый доўгі час была ў выглядзе штрафу альбо арышту на тэрмін да 15 сутак і шырока не выкарыстоўвалася. Становішча пагоршылася з-за павелічэння адказнасці з адміністрацыйнай на крымінальную з восені 2005 года, калі ў Крымінальны кодэкс Беларусі быў унесены артыкул $193^1$, які прадугледжвае, што арганізацыя дзейнасці альбо ўдзел у дзейнасці палітычнай партыі, іншага грамадскага аб’яднання, рэлігійнай арганізацыі ці фонду, у адносінах да якіх маецца рашэнне, якое ўступіла ў сілу, упаўнаважанага органа аб іх ліквідацыі ці прыпыненні іх дзейнасці, а таксама арганізацыя дзейнасці альбо ўдзел у дзейнасці палітычнай партыі, іншага грамадскага аб’яднання, рэлігійнай арганізацыі ці фонду, якія не прайшлі ў вызначаным парадку дзяржаўную рэгістрацыю, – караюцца штрафам ці арыштам на тэрмін да шасці месяцаў альбо пазбаўленнем свабоды на тэрмін да двух гадоў. Прынцыпова важна, што сам характар дзейнасці незарэгістраванага суб’екта не мае значэння, ён можа быць грамадска карысны – але самога факта адсутнасці дзяржаўнай рэгістрацыі дастаткова для крымінальнага пераследу.
Першай ахвярай новага артыкула надзвычай хутка стала арганізацыя па назіранні за выбарамі “Партнёрства”, чатыры чальцы якой былі асуджаныя на абмежаванне волі. За час дзейнасці гэтага крымінальнага артыкула да розных пакаранняў паводле яго было асуджана не менш за 18 чалавек (гэта вядомыя праваабаронцам паказчыкі), у тым ліку, шэраг гэтых асоб былі асуджаныя на пакаранні, звязаныя са зняволеннем. Ніводны з абвінавачаных не быў апраўданы судом. Істотна, што наяўнасць гэтага артыкула выкарыстоўваецца ўладамі і ў якасці прэвентыўнага сродку, каб прымусіць удзельнікаў і лідэраў стрымаць сваю актыўнасць і зрабіць яе непублічнай, прыхаванай. Так, пракуратура Беларусі выносіла папярэджанні аб магчымым прыцягненні да адказнасці па артыкуле $193^1$ на адрас удзельнікаў такіх вядомых арганізацый, як Праваабарончы цэнтр “Вясна”, Задзіночанне беларускіх студэнтаў, “Малады Фронт”, Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследванняў і Саюз палякаў на Беларусі.
Наяўнасць артыкула $193^1$ надзвычай перашкаджае нармальнаму развіццю грамадзянскай супольнасці ў краіне, асабліва з улікам складанай працэдуры рэгістрацыі грамадскіх аб’яднанняў. Ён трактуе як злачынства практычна любую самастойную ініцыятыву грамадзян, парушае іх права на аб’яднанне і супярэчыць Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, Міжнароднаму пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах ды іншым міжнародным прававым абавязкам, якія ўзяла на сябе Рэспубліка Беларусь, а таксама, урэшце рэшт, Канстытуцыі, якая артыкулам 36 замацоўвае права кожнага на свабоду аб’яднанняў.
Залішне казаць, што падобная норма супярэчыць еўрапейскім стандартам свабоды асацыяцый і дзейнасці няўрадавых арганізацый. Больш за тое, падобнай нормы няма не толькі ў краінах Еўропы, але і ў ніводнай з краін Садружнасці незалежных дзяржаў. Артыкул $193^1$ неаднаразова быў прадметам крытыкі з

боку міжнародных арганізацый, уключна з Саветам па правах чалавека ААН. У 2011 годзе Камісія за дэмакратыю праз права (вядомая, як Венецыянская камісія) вынесла экспертнае заключэнне аб неадпаведнасці  артыкула 1931 агульнапрынятым стандартам у галіне свабоды асацыяцыі і абавязальніцтвам па правах чалавека, якія прыняла на сабе Рэспубліка Беларусь.

**Вымушаная рэгістрацыя за мяжой – але не ў выгнанні**

Аб’ектыўнае пагаршэнне ўмоў дзейнасці беларускіх НДА прывяло да таго, што  недзе з сярэдзіны 2000-х гадоў усё болей арганізацый стала спрабаваць перанесці частку сваёй актыўнасці за мяжу. Тут трэба падзяляць тыя структуры беларускай грамадзянскай супольнасці, якія стала знаходзяцца за межамі Беларусі (як радыёстанцыі і тэлеканалы, што вяшчаюць на краіну з замежжа, альбо такія арганізацыі, як “Беларускі дом правоў чалавека ў выгнанні” альбо “Офіс за дэмакратычную Беларусь” у Брусэлі) ці адмыслова створаныя арганізацыі падтрымкі Беларусі (“Грамадзянская Беларусь” у Чэхіі альбо падобныя таварыствы ў Берліне, Брусэлі ды Варшаве), ад выпадкаў, калі арганізацыі, што дзейнічаюць у Беларусі, з-за немагчымасці рэгістрацыі на радзіме легалізуюцца ў якасці замежных юрыдычных асоб, не спыняючы пры гэтым існавання ўнутры Беларусі.

Умовы ў еўрапейскіх краінах адносна рэгістрацыі некамерцыйных арганізацый хоць і вельмі розныя, але практычна па ўсіх паказчыках лепей за беларускія. Таму напачатку 2010-х гадоў склалася цэлая сістэма беларускіх арганізацый, што зарэгістраваныя ў замежных краінах па ўсёй Еўропе. Гэта Украіна (Фонд развіцця прававых тэхналогій і “Прававая дапамога насельніцтву”), Літва (“Праваабарончы альянс” ды “Беларускі інстытут стратэгічных даследаванняў”), Польшча (“Беларускае шуманаўскае таварыства”), Чэхія (“Малады Фронт” ды ініцыятыва “Наш дом”), а таксама Данія (кансорцыум “Еўрабеларусь”) і іншыя краіны Еўропы ды Расія. Можна казаць, што рэгістрацыя за мяжой стала для беларускіх арганізацый звыклай з’явай, абумоўленай сітуацыяй унутры краіны.

Пры выбары месца рэгістрацыі беларускія арганізацыі кіруюцца як тэхнічнымі выгодамі (наяўнасць інфраструктуры для дзейнасці у гэтай краіне, наяўнасць сталых партнёраў, палітычная падтрымка дзяржавы, простае транспартнае спалучэнне), так і юрыдычнымі аспектамі (магчымасць рэгістрацыі без сталага знаходжання заснавальнікаў на гэтай тэрыторыі, прастата працэдуры рэгістрацыі і неабходныя для яе сродкі, прадугледжаныя заканадаўствам краіны арганізацыйна-прававыя формы некамерцыйных арганізацый, патрэба абавязковага офіснага памяшкання, рэжым падаткаабкладання ахвяраванняў, магчымасць удзелу ў кіраванні арганізацыяй замежых грамадзян). На дадзены момант па сукупнасці паказчыкаў найбольшая колькасць беларускіх арганізацый абірае шлях рэгістрацыі ў Літве.

Яшчэ раз важна падкрэсліць, што ў дадзеным выпадку гаворка не ідзе пра тое, што арганізацыі з Беларусі з’яжджаюць у выгнанне – не, яны працягваюць дзенічаць на Беларусі, і іх актывісты ды лідэры пражываюць унутры Беларусі.

Што ж ім дае статус некамерцыйнай арганізацыі, зарэгістраванай за мяжой? Усё ж рэгістрацыя афіцыйнага прадстаўніцтва і ўжо існуючай замежнай некамерцыйнай арганізацыі ў Беларусі каштуе вельмі дорага і ніколькі не прасцей за рэгістрацыю звычайнага аб’яднання.

Пытанне гэта складанае і мае шмат аспектаў. З юрыдычнага пункта гледжання, беларускі грамадзянін, калі ён дырэктар альбо сябра замежнай арганізацыі, мае магчымасць выступаць ад імя гэтай арганізацыі – і гэта ўжо немала. Няма ў Беларусі закона, які б забараняў уступаць у замежныя асацыяцыі! Але ж на практыцы вядома, што і прадстаўнікі ўжо зарэгістраваных за мяжой арганізацый “Малады Фронт” і адной з прадпрымальніцкіх структур атрымлівалі папярэджанні ад пракуратуры аб недапушчальнасці дзейнічаць у складзе незарэгістраваных арганізацый. У адным з выпадкаў была атрымана пагроза, што як злачынства будуць разглядацца сітуацыі, калі беларускі грамадзянін не сыйдзе з пасады кіраўніка зарэгістраванай за мяжой арганізацыі.

Паводле агульнага правіла, наяўнасць замежнай рэгістрацыі дазваляе распаўсюджваць у Беларусі інфармацыю пра замежную арганізацыю. І гэта, напрыклад, здымае праблему публікацый у СМІ, якім забаронена пісаць пра незарэгістраваныя арганізацыі. Як падаецца, гэта можа быць значным чыннікам, каб пазбегнуць маргіналізацыі НДА, якія ўлада імкнецца загнаць у падполле. У любым выпадку, неправавы характар беларускай дзяржавы  ўскладняе ацэнку выгодаў замежнай рэгістрацыі – але само жыццё сведчыць пра запатрабаванасць гэткага шляху.

На жаль, 2011 год прынёс яшчэ адзін сумны прыклад выгодаў ад рэгістрацыі за мяжой, звязаны з выдачай Польшчай і Літвой інфармацыі пра рахункі, якія былі адчыненыя ў гэтых краінах лідэрам Праваабарончага цэнтру “Вясна” Алесем Бяляцкім і ягонымі паплечнікамі па гэта аўтарытэтнай праваабарончай арганізацыі. “Вясна” была ліквідаваная рашэннем суда ў 2003 годзе за парушэнні пры ажыццяўленні назірання за выбарамі. Пазней гэтая ліквідацыя была прызнаная неабгрунтаванай Камітэтам па правах чалавека ААН, і беларускаму боку было прапанавана выправіць сітуацыю праз скасаванне рашэння аб ліквідацыі альбо праз рэгістрацыю арганізацыі нанава. Сябры “Вясны” падавалі скаргі, накіроўвалі пакеты дакументаў на новую рэгістрацыю – але безвынікова, бо беларускі рэжым не жадаў мець легальную праваабарончую структуру.

Увесь час дзейнасць “Вясны” не спынялася, і праваабаронцы разглядалі сваю працу без рэгістрацыі, як праяву грамадзянскага непадпарадкавання. Пры гэтым, замежная бязвыплатная дапамога, адрасаваная арганізацыі на праваабарончую дзейнасць, акумулявалася на асабістых рахунках праваабаронцаў. 24 лістапада 2011 года суд прызнаў гэтыя сродкі асабістым прыбыткам Бяляцкага і прыгаварыў яго да 4,5 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй за ўхіленне ад падаткаў (хоць ахвярадаўцы пацвярджалі суду, што грошы былі выдаткаваны па прызначэнні, і па іх была атрыманая справаздачнасць згодна з бухгалтарскімі правіламі).

Досвед гэтай справы сведчыць пра тую небяспеку, якая існуе для беларускіх арганізацый, што атрымліваюць сродкі ад сваіх партнёраў на рахункі ў замежных банках. У такіх умовах рэгістрацыя афіцыйнай юрыдычнай асобы за мяжой

для ажыццяўлення праз яе фінансавай дзейнасці можа быць важным сродкам прадухілення абвінавачанняў у падатковых парушэннях. Да таго ж, рэгістрацыя некамерцыйнай юрыдычнай асобы ў Польшчы дазваляе беларускім арганізацыям карыстацца ўсімі выгодамі, якія маюць НДА краінаў Еўрасаюза, у тым ліку, мець доступ да некаторых праграм фінансавай падтрымкі ад Еўрапейскай камісіі і іншых падобных крыніц. Гэты аспект мусіць быць адным з важных фактараў, якія трэба браць пад увагу пры прыняцці беларускай арганізацыяй рашэння аб рэгістрацыі за мяжой.

Стварэнне адмысловага дапаможніка для беларускіх грамадскіх аб'яднанняў аб умовах і перавагах рэгістрацыі ў Польшчы можа быць важным крокам да таго, каб гэтая краіна стала новай бяспечнай базай для беларускіх арганізацый. Я ўпэўнены, што выкладзеныя тут прававыя і тэхнічныя аспекты дазволяць беларускім арганізацыям на падставе іх планаў дзейнасці ацаніць усе перавагі рэгістрацыі ў Польшчы, як дзяржаве, якая з'яўляецца даўнім прыяцелем грамадзянскай супольнасці і справы дэмакратыі ў Беларусі.

Калі падобныя дапаможнікі з'явяцца і ў іншых краінах-суседках Беларусі, то гэта дазволіць беларускім арганізацыям зрабіць выбар паміж рознымі кропкамі размяшчэння з улікам мэтазгоднасьці і эфэктыўнасьці іх працы ўнутры краіны ў гэты складаны для айчыннай грамадзянскай супольнасці час.

## II. Як ствараецца арганізацыя ў Польшчы – тлумачэнне і практычныя парады

### 1. Рэаліі вядзення грамадскай дзейнасці ў Польшчы – на што іншаземцам трэба звярнуць увагу[3]

**Якія юрыдычныя формы няўрадавых арганізацый ёсць у Польшчы? Якія з іх могуць ствараць грамадзяне іншых краін?**

Калі мы хочам займацца грамадскай дзейнасцю ў Польшчы, мы можам стварыць **фонд** ці **таварыства**. Часта, для спрашчэння, яны называюцца няўрадавымі арганізацыямі, выкарыстоўваецца і акрэсленне НГА (ад ангельскага *non governmental organisations)*.

Закон дазваляе займацца грамадскай дзейнасцю і нефармальнай групе, якая не з'яўляецца юрыдычнай асобай. Мінімум тры чалавекі могуць стварыць звычайнае таварыства, якое таксама не з'яўляецца юрыдычынай асобай. Аб яго стварэнні мы пісьмова паведамляем у павятовае староства.

Аднак, пэўнай дзейнасцю (напрыклад, прыняцце дабрачынных узносаў, атрыманне датацыяў публічнай адміністрацыі) можа займацца толькі таварыства ці фонд, зарэгістраваны ў КРС, паколькі тады арганізацыя становіцца юрыдычнай асобай. Асноўны заканадаўчы акт, што рэгулюе дзейнасць таварыстваў у Польшчы, – Закон "Аб таварыствах", а фонду – Закон "Аб фондах". Іх дзейнасці датычыць і Закон "Аб карыснай грамадству дзейнасці і валантарыяце" (так званы Закон "Аб карыснай дзейнасці").



**Што ахвотней ствараюць іншаземцы – таварыствы ці фонды?**

Досвед іншаземцаў, якія стварылі ў Польшчы арганізацыі, сведчыць, што іншаземцы ахвотней выбіраюць фонд, а не таварыства. Неабходна, аднак, падкрэсліць, што прычыны, па якіх выбіраецца тая ці іншыя форма, бываюць розныя:

- адныя выбіраюць таварыства, паколькі яно больш дэмакратычнае, чым фонд – рашэнні прымаюць, напрыклад, не тры чалавекі з управы, а мінімум 15 чалавек – сяброў таварыства, якія вырашаюць усё разам, на агульным сходзе. Форму таварыства выбіраюць асобы, у якіх атрымалася сабраць 15 чалавек. Без праблем можна запрасіць знаёмых палякаў, якія дапамогуць іншаземцам і з задавальненнем падключацца да дзейнасці новых арганізацый. Пры стварэнні таварыства не патрэбны такі, як у фондзе, устаноўчы фонд, які павінен быць не меншы за 1000 злотых (пасля стварэння фонду гэтыя грошы пералічваюцца на яго банкаўскі рахунак. У натарыуса дэкларуецца наяўнасць такой сумы, якая будзе пералічана арганізацыі, а пасля яе стварэння грошы ідуць на банкаўскі рахунак фонду. Часам КРС патрабуе пацверджання пераліку дадзенай сумы фонду.)
- У сваю чаргу, іншым складаней стварыць таварыства, а не фонд (перадусім, з-за колькасці патрэбных асоб). Яны выбіраюць фонд, бо ў таварыстве "кожны сябра мае ўплыў на рашэнне, мае голас, і могуць узнікнуць канфлікты". Ім прасцей стварыць фонд, паколькі не трэба знаходзіць 15 сяброў-заснавальнікаў (зрэшты, імі могуць быць толькі асобы, прапісаныя ў Польшчы), дастаткова волі фундатара (ён не мусіць быць палякам), выбару ўправы і грошай на ўстаноўчы фонд.

Бачна, что прычыны, па якіх адныя выбіраюць таварыства, а другія – фонд, розныя, і часта тое, што для адных – плюс, для іншых з'яўляецца мінусам (напрыклад, дэмакратычнае прыняцце рашэнняў у таварыстве). Таму, заўсёды неабходна ўзважыць, якая юрыдычная форма арганізацыі будзе найлепшым чынам адпавядаць мэтам і характару арганізацыі, якую мы ствараем. Зрэшты, гэта пытанні, пра якія пры стварэнні арганізацыі мусяць падумаць і палякі, – тут няма ніякіх разыходжанняў. Адрозніваюцца, аднак, юрыдычныя ўмовы стварэння НГА іншаземцамі, але аб гэтым пазней.

Падрабязней аб тым, чым фармальна адрозніваюцца таварыствы і фонды, – у раздзеле II.2.

**Ці заканадаўчыя нормы абмяжоўваюць удзел іншаземцаў у няўрадавых арганізацыях?**

Па-рознаму рэгулюецца ўдзел іншаземцаў у законах, што датычаць таварыстваў і фондаў:

- **таварыства:** іншаземцы, у якіх няма прапіскі на тэрыторыі Польшчы, могуць уступіць у таварыства, статут якога дае такую магчымасць, але яны самыя не могуць стварыць таварыства. Самастойна (у якасці сяброў-заснавальнікаў) стварыць таварыства могуць толькі іншаземцы, прапісаныя ў Польшчы (арт.

4 Закона "Права аб таварыствах"). Законам не прадугледжаныя ніякія нормы, што абмяжоўваюць ці забараняюць удзел іншаземцаў ва ўладах таварыства (упраў, рэвізійнай камісіі).

- Калі мы выбіраем форму таварыства і хочам, каб у яго дзейнасці прымалі ўдзел іншаземцы, не прапісаныя ў Польшчы, то зручней за ўсё будзе, калі сябрамі-заснавальнікамі стануць палякі, а асобаў з іншых краін, не прапісаных у Польшчы, можна прыняць пазней, у якасці сяброў гэтага таварыства (як звычайных сяброў, сяброў-памагатых, ганаровых сяброў і г. д.). З гэтым не звязаныя ніякія фармальнасці ці дапаўненне дадзеных ў КРС.
- Ці іншаземцы могуць увайсці ва ўлады (управу і рэвізійную камісію) толькі што створанага таварыства? Прадстаўнікі ўлады абіраюцца сярод сяброў-заснавальнікаў – калі сярод іх ёсць непалякі, прапісаныя ў Польшчы, то яны, безумоўна, могуць увайсці ва ўлады таварыства. Але калі хтосьці з'яўляецца іншаземцам, не прапісаным у Польшчы, то ён не можа быць адразу ж абраны ва ўлады. Ён, аднак, можа пасля рэгістрацыі таварыства стаць яго сябрам (тады ўжо нікому не патрэбная прапіска, бо пра сяброў, прынятых у таварыства пасля яго рэгістрацыі, не трэба заяўляць у КРС) і ўжо тады балатавацца ва ўлады.
- **Фонд:** асоба, якая стварае фонд – гэта фундатар. Ім можа стаць, як польскі грамадзянін, так і іншаземец, бо, у адпаведнасці з Законам "Аб фондах", "фонды могуць ствараць фізічныя асобы, незалежна ад іх грамадзянства і месца пражывання" (ч. 1 арт. 2). Такім чынам, фундатарам можа стаць іншаземец, і няма значэння, ці прапісаны ён у Польшчы, ці не. Акрамя таго, ва ўладах фонду могуць быць іншаземцы, не прапісаныя ў Польшчы (напрыклад, у радзе аднаго з заснаваных фондаў у аднаго чалавека быў толькі беларускі адрас, і падчас рэгістарцыі ў КРС дастаткова было ўказаць нумар яго пашпарта).

**Як напісаць статут? Што ў ім адлюстраваць, каб ён меў практычнае значэнне і спрацаваў у арганізацыі, у якой ёсць іншаземцы?**

Статут фонду ці таварыства – гэта адзін з асноўных дакументаў, што рэгулюе функцыянаванне арганізацыі. Ён акрэслівае, напрыклад, спосабы прыняцця рашэнняў, кампетэнтнасць управы ды пэўныя галіны дзеяння. Многім іншаземцам складана напісаць статут з-за моўнага бар'ера ("Ведаеш, што хочаш напісаць, пішаш, але табе не хапае слоў"). Статут павінен быць на польскай мове, таму варта звязацца са знаёмымі палякамі. Калі іншаземцы ствараюць арганізацыю ў Польшчы, то яны павінны падпарадкоўвацца польскім законам і разумець польскую мову (яны самыя ці нехта з іх арганізацыі), валоданне якой спатрэбіцца і ў дзяржаўных установах.

У таварыстве статут пішуць сябры-заснавальнікі, а апрацоўка статута фонду – заданне фундатара (хоць ён у пісьмовай форме можна даць гэтае заданне камусьці іншаму). Калі статут фонду будзе напісаны не на польскай мове, то ў натарыуса абавязкова павінен прысутнічаць прысяжны перакладчык, што звязана з дадатковымі выдаткамі (натарыус не правярае статута фонду – пастановы на польскай мове патрэбныя яму для натарыяльнага акта). Прысяжны перакладчык – гэта перакладчык з адпаведнымі кваліфікацыямі, зарэгістраваны ў Міністэрстве юстыцыі, таму нам у гэтым не дапаможа, напрыклад, наш знаёмы, у якога няма такіх паўнамоцваў.

Як раяць іншаземцы (хоць гэта пытанні, важныя і для палякаў, якія ствараюць НГА), у статуце асаблівую ўвагу неабходна звярнуць на наступныя справы:

- у статуце таварыства неабходна напісаць пра тое, што іншаземцы могуць быць сябрамі гэтай арганізацыі;
- у статуце таварыства абавязкова трэба звярнуць увагу на пастанову пра кворум – колькасць асоб, якія мусяць удзельнічаць у агульным сходзе. Калі мы пазначым, што ў ім павінны ўдзельнічаць усе сябры арганізацыі, то можа здарыцца, што часта гэта немагчыма, бо заўсёды хтосьці не зможа прыняць у ім удзел. **Таму варта запісаць, што, калі няма кворуму, агульны сход можна склікаць у другі тэрмін, напрыклад, праз 15 хвілін.**
- Неабходна дакладна апісаць, з якіх крыніц фонд можа фінансаваць сваю дзейнасць. Калі ў апісанні мы не ўлічым нейкай крыніцы прыбытку (напрыклад, дабрачынных узносаў), то арганізацыя не зможа іх прымаць. Калі яна будзе займацца гаспадарчай дзейнасцю, то такую інфармацыю трэба адлюстраваць у статуце.

Узоры прыблізных статутаў таварыства і фонду ды апісанне практычных парад ёсць на сайце poradnik.ngo.pl. Падчас напісання статута можна выкарыстаць даступныя ў Інтэрнэце ўзоры польскіх статутаў на сайтах розных арганізацый. Аднак, не варта іх аўтаматычна перапісваць, бо яны могуць не падыходзіць нашай арганізацыі. Няма двух аднолькавых статутаў гэтак жа, як няма двух аднолькавых таварыстваў ці фондаў. Падрабязней пра статуты – у раздзеле III.2 і IV.3.

**Ці рашэнні ўладаў арганізацыі могуць быць не на польскай мове?**

Улады арганізацыі (адпаведна – управа, рэвізійная камісія, рада фонду, агульны сход сяброў таварыства) выражаюць сваю волю ў выглядзе рашэнняў. Падпісаныя (напрыклад, сябрамі ўправы) рашэнні з'яўляюцца дакументацыяй арганізацыі, якую трэба захоўваць. У арганізацыях, створаных іншаземцамі ў Польшчы, рашэнні могуць пісацца на іх роднай мове. Раім, аднак, рабіць іх пераклады на польскую мову. Навошта? Калі, напрыклад, у арганізацыю прыйдзе кантроль з нейкай установы, то спатрэбяцца дакументы на польскай мове. Акрамя таго, калі мы, напрыклад, змяняем статут арганізацыі, аб гэтым рашэнні трэба заяўвіць у КРС. Рашэнне далучаецца да заявы ў якасці пацверджання змен – таму, яно павінна быць на польскай мове, бо, у іншым выпадку, КРС і так запатрабуе перакладу. Рашэнні наконт толькі што створанай арганізацыі таксама павіны быць на польскай мове.

**Якая польская ўстанова рэгіструе фонды і таварыствы?**

Таварыствы і фонды рэгіструе Агульнапольскі судовы рэестр[9] (КРС). Гэта публічны рэестр, які вядзецца на польскай мове рэгістравымі судамі ў кожным ваяводстве. У ім збіраецца інфармацыя аб розных суб'ектах, у прыватнасці, аб

фондах, таварствах, прадпрымальніках. Няўрадавыя арганізацыі рэгіструюцца ў КРС, а пазней заяўляюць у ім аб пэўнай інфармацыі, падзеях ужо падчас дзейнасці (напрыклад, пра змену ўлады ці статута арганізацыі, пачатак гаспадарчай дзейнасці і пра яе завяршэнне). Апрача таго, арганізацыя часта павінна пацвердзіць, напрыклад, факт рэгістрацыі ці прадставіць актуальны склад сваіх уладаў – для гэтага ёсць завераныя копіі, выпіскі і даведкі, якія можна атрымаць у КРС.
Справай, пра якую мы пісьмова заяўляем у КРС (у прыватнасці, рэгістрацыя арганізацыі ці змены ў статуце), займаецца суддзя ці судовы рэферэндар. Ён можа запатрабаваць даць тлумачэнні, зрабіць выпраўленні ў пададзеных дакументах і фармулярах. Вядома, яны павінны грунтавацца на актуальных заканадаўчых нормах, аднак **суддзя прымае самастойнае рашэнне і з'яўляецца незалежным. Ён заўсёды мае права запатрабаваць дадатковыя дакументы, калі, на яго думку, у іх штосьці не супадае.** Таму, здараецца, што адзін суддзя вельмі патрабавальны і ў яго шмат заўваг, хоць у іншага суддзі іх не было б. **Арганізацыі скардзяцца на кантакты з суддзямі КРС і таму, што ўсё вырашаецца пісьмовым шляхам (нельга, напрыклад, сустрэцца і штосьці патлумачыць) і трэба дакладна прытрымлівацца тэрмінаў (звычайна 7 дзён)** адказаў. Як нехта слушна зазначыў – для суда найбольш істотнымі з'яўляюцца тэрміны, а не людзі.

У сувязі з тым, што практыка ў асобных судах розная, варта перад падачай рэгістрацыйнай заяўкі звязацца з адпаведным аддзелам КРС. Напрыклад, у некаторых судах патрэбны толькі адзін экзэмпляр рэгістрацыйнай заяўкі. Падача дадатковага, непатрэбнага экзэмпляра не прывядзе да негатыўных наступстваў. А вось адсутнасць нейкай патрэбнай паперы зацягне рэгістрацыю.

**Колькі часу займае працэдура рэгістрацыі ў КРС? Што ў ёй самае складанае?**
Звычайна КРС адказвае на рэгістрацыйную заяўку таварыства на працягу 3 месяцаў, а ў выпадку фондаў – 7 дзён ад падачы заяўкі. Аднак гэтыя тэрміны – толькі час, калі КРС мусіць выказацца на тэму нашай заяўкі – рэгістрацыя, часцей за ўсё, займай нашмат больш часу, бо рэдка здараецца так, што ў суддзі няма ніякіх заўваг наконт пададзеных дакументаў і фармуляраў. Неабходныя выпраўленні зацягваюць рэгістрацыю, пакуль усё – на яго думку – будзе запоўнена правільна і ў адпаведнасці з законам.
Часта ў КРС узнікаюць заўвагі наконт статута – на адрас арганізацыі прыходзіць ліст на гэты конт, на які трэба адказаць сваімі заўвагамі. Не варта, аднак, баяцца КРС – калі штосьці трэба змяніць ці дапоўніць, то гэта трэба зрабіць і накіраваць у суд альбо абскардзіць рашэнне, з якім мы не згодныя. З-за гэтага рэгістрацыя займае 1 – 2 ці некалькі месяцаў. Яе хуткасць залежыць і ад таго, наколькі старанна мы падрыхтуем дакументы і фармуляры, і ад патрабаванняў суддзі. Напрыклад, адна арганізацыя атрымала КРС з просьбай выправіць памылкі ў статуце – перадусім, гаворка ішла аб тым, каб скасаваць непатрэбныя двукоссі ў назве фонду. Гэта было выпраўлена, але не атрымалася знайсці адразу ўсе памылкі, і рэгістрацыя яшчэ цягнецца (ужо больш за восем месяцаў).
Многія іншаземца кажуць, што рэгістрацыя складаная і занадта бюракратычная. Іх цяжкасці звязаныя і з няведаннем польскай мовы, паколькі рэгістрацыйныя дакументы і фармуляры па-польску, і іх складана запоўніць. Пра якія правілы трэба памятаць пры іх запаўненні?

- Чытайма інструкцыі на фармулярах!
- Запаўняйма фармуляр разборліва на машынцы, кампутары ці ад рукі, друкаванымі літарамі.
- Запаўняйма толькі рубрыкі на светлым фоне.
- Незапоўненыя рубрыкі трэба закрэсліць (лепш за ўсё, ад верхняга левага да ніжняга правага вугла).
- Ва ўсіх рубрыках, у якіх ёсць магчымасць выбару, трэба паставіць знак "X" у адпаведным квадраце.
- Усе фармуляры трэба падпісаць.

Рэгістрацыю (падрыхтоўку дакументаў, фармуляры, кантакты з КРС) можна даручыць прыватнай юрыдычнай фірме. У такім выпадку, ёсць шансы, што рэгістрацыя пройдзе хутка і без праблем. У Варшаве, аднак, гэта каштуе каля 4000 злотых, таму варта рэгістравацца самастойна – так робіць пераважная большасць арганізацый, якія ствараюцца ў Польшчы. Акрамя таго, можна звярнуцца па бясплатную дапамогу да арганізацыі, мэта якой – падтрымка грамадзян пры стварэнні няўрадавых арганізацый.

**Якія выдаткі звязаныя з рэгістарцыяй у КРС фонду і таварыства?**
Рэгістрацыя ў КРС таварыства, якое не будзе весці гападарчую дзейнасць, павінна быць бясплатнай (ч. 4 арт. 17 Закона "Права аб таварыствах"[10]). У сваю чаргу, рэгістрацыя таварыства, якое адначасова будзе весці гаспадарчую дзейнасць, абыдзецца ў 1000 злотых (500 злотых за ўнясенне ў рээстр прадпрымальнікаў ды 500 злотых за абвестку ў выданні "Монітор сондовы і господарчы"). Часам, аднак, бывае, што ў некаторых судах спаганяецца рэгістрацыйная аплата – тады разам з рэгістрацыйнай заяўкай можна падаць хадайніцтва аб вызваленні ад аплаты (узор для HYPERLINK "http://poradnik.ngo.pl/files/poradnik.ngo.pl/public/zwolnienie_koszty_sadowe/wniosek_o_zwolnienie_stowarzyszenia_z_kosztow_sadowych_dobry.doc"таварыства знаходзіцца на сайце poradnik.ngo.pl).
Выдаткі на рэгістрацыю фонду, што не вядзе гаспадарчай дзейнасці, – гэта 250 злотых, а ў выпадку яе вядзення – 1000 злотых. Фонд таксама можа хадайнічаць аб вызваленні ад рэгістрацыйнай аплаты, але суды рэдка прымаюць станоўчыя рашэнні (узор хадайніцтва аб вызваленні http://poradnik.ngo.pl/files/poradnik.ngo.pl/public/zwolnienie_koszty_sadowe/wniosek_o_zwolnienie_fundacji_z_kosztow_sadowych_dobry.rtf фонду ад рэгістрацыйнай аплаты ёсць на сайце poradnik.ngo.pl). Да гэтых рэгістрацыйных выдаткаў фонду неабходна дадаць натарыяльную аплату (так званую натарыяльную таксу) – яна залежыць ад устаноўчага фонду (пры ўстаноўчым фондзе ў памеры 1000 злотых, натарыусу трэба заплаціць каля 200 злотых, а ў Варшаве, напрыклад, – 180 – 250 злотых).

**Што трэба зрабіць арганізацыі пасля рэгістрацыі ў КРС, напрыклад, у сувязі з аплатай падаткаў ці іншымі рэгістрацыйнымі нумарамі?**
Самой рэгістрацыі ў КРС недастаткова для таго, каб займацца грамадскай дзейнасцю. Аб арганізацыі трэба абавязкава паведаміць у падатковую інспекцыю, каб атрымаць нумар падатковай ідэнтыфікацыі (НІП), ды ў статыстычнае ўпраўленне – там выдадуць нумар РЭГОН. Акрамя таго, на практыцы розныя ўстановы, фірмы, ведамствы патрабуюць ад арганізацыі – акрамя выпіскі з КРС – яшчэ два дакументы: пацверджанне прысваення нумара НІП (яго выдае падатковая інспекцыя) і нумар РЭГОН (выдае статыстычнае ўпраўленне).
Калі арганізацыя хадайнічае аб прысваенні ёй нумара НІП, а ў яе няма памяшкання, і яна не можа прад'явіць дамову, што пацвярджае права ўласнасці на памяшканне, яго арэнду ці бязвыплатнае карыстанне ім, то арганізацыя не атрымае нумара НІП, што ўскладніць яе дзейнасць, паколькі яна не атрымае і нумара РЭГОН ды не зможа распачаць дзейнасць. Падрабязней пра памяшканне на дзейнасць арганізацыі – ніжэй.
Як таварыства, так і фонд павінны адкрыць сабе банкаўскі рахунак.

**Ці арганізацыя павінна мець сядзібу (офіс)?**
Таварыства і фонд не мусяць мець “офіса” (агульнадаступнага месца дзейнасці), каб весці грамадскую дзейнасць. Аднак, трэба мець нейкую “сядзібу”, якая акрэсліваецца ў статуце (гэта назва мясцовасці) і рэгіструецца ў фармуляры КРС. Акрамя таго, арганізацыя павінна ўказаць паштовы адрас.
Калі арганізацыя хадайнічае аб прысваенні нумара НІП, то ад яе запатрабуюць дакумент, што пацвярджае права на выкарыстанне месца, у якім знаходзіцца “сядзіба” арганізацыі і яе паштовы адрас. Такім дакументам можа быць, напрыклад, дамова на бязвыплатнае карыстанне кватэрай (яе часткай) ці домам з боку сябра арганізацыі ў рамах яе дзейнасці альбо дамова арэнды офіса (тады ён арандуецца на камерцыйнай падставе).
Калі сярод сяброў ці ва ўладах арганізацыі ёсць палякі (альбо іншаземец, які мае права ўласнасці), то, часцей за ўсё, хтосьці з іх згаджаецца падпісаць дамову на выкарыстанне (арэнду ці бязвыплатнае карыстанне) яго кватэры ці дома на патрэбы арганізацыі. Варта памятаць, што прадастаўленне памяшкання ў бязвыплатнае карыстанне (узор такой дамовы ёсць на сайце poradnik.ngo.pl), – зручнае рашэнне. Гаспадарам кватэры ці дома, якія баяцца падатковых складанасцей, варта патлумачыць, што, калі карыстанне бязвыплатнае, і арганізацыі, якая будзе на самой справе выкарыстоўваць памяшканне, насамрэч, патрэбны толькі адрас, тады ўладальніку ў сувязі з такім бязвыплатным карыстаннем не трэба плаціць падаткаў.

Калі ў нас няма чалавека, які на гэта пагаджаецца, то ўзнікаюць праблемы. Многія іншаземцы наракаюць, што гэта сур'ёзныя перашкоды, якія трэба ўсведамляць яшчэ пры планаванні стварэння арганізацыі. Часта іншаземец, каторы стварае арганізацыю ў Польшы, – гэта студэнт ці ўцякач, які дымае кватэру, і гаспадар дадзенай кватэры не згаджаецца прадставіць памяшканне ў бязвыплатнае карыстанне на сядзібу арганізацыі. Дзе знайсці такое памяшканне і што можна зрабіць?

- Можна знайсці памяшканне і зняць яго, але тады трэба плаціць арэндную плату, а ў буйных гарадах гэта не менш за некалькі сот злотых штомесяц. Не ў кожнага ёсць такія сродкі.
- Можна запытаць у сяброўскай установе ці ў арганізацыі, з якой мы звязаныя, ці можна выкарыстаць іх пакой (калі памяшканне – гэта іх уласнасць), і ці могуць яны падпісаць з намі дамову на бязвыплатнае карыстанне ці арэнду. Гэта будзе бясплатна ці, прынамсі, танней.
- Акрамя таго, бывае, што ў бязвыплатнае карыстанне, на некаторыя праекты ці дзейнасць прапаноўваюцца месцы ва ўстановах самакіравання (клубы, школы, дамы культуры), у вну ці ў офісах іншых арганізацый, якія займаюцца падтрымкай нядаўна створаных суб'ектаў. Часамі самакіраванне падтрымлівае дзейнасць арганізацый і арэндуе ім памяшканні па стаўках, ніжэйшых за камерцыйныя, альбо ладзіць конкурсы, у якіх выкарыстоўваецца крытэр “важныя для грамадства дзеянні”, а не “цана”.

**Ці арганізацыя абавязкова павінна працаўладкаваць бухгалтара?**
Бухгалтэрыю трэба весці абавязкова. У малым фондзе ці таварыстве бухгалтар (бухгалтарка) часцей за ўсё адказвае за фінансы ўсёй арганізацыі, але ў буйнейшым фондзе аднаму чалавеку немагчыма адказваць за ўсе фінансавыя пытанні. Бухгалтэрыю можна весці на валанцёрскіх пачатках, можна працаўладкаваць асоб для яе вядзення ці даручыць гэта бухгалтарскаму бюро. Калі ў нас няма знаёмага, які будзе займацца гэтым на грамадскіх пачатках, то ў бюджэце арганізацыі неабходна ўлічыць выдаткі такога кшталту.
Кожная няўрадавая арганізацыя, у адпаведнасці з Законам “Аб бухгалтарскім уліку”[11], павінна апрацаваць бухгалтарскую палітыку – фінансавыя прынцыпы, на падставе якіх вядуцца бухгалтарскія кнігі. Бухгалтарскую палітыку, як дакумент, што апісвае фінансавыя прынцыпы дзейнасці арганізацыі, распрацоўвае бухгалтар разам з упраўай ці асобай, адказнай у арганізацыі за кіраванне фінансамі. Апрацоўка бухгалтарскай палітыкі можа быць заказана і ў знешніх суб'ектаў. Калі вы хочаце мець бухгалтэрыю, якая добра функцыянуе, трэба звярнуць увагу на тое, каб апрацаваныя прынцыпы адпавядалі не толькі актуальным заканадаўчым нормам, але і ўлічвалі спецыфіку дзейнасці арганізацыі. Пасля гэтага апрацаваная бухгалтарская палітыка павінна быць апісана і прынята ўправай (тое, ці яна ў нас ёсць, абавязкова праверацць падчас падатковага кантролю). За бухгалтарскую палітыку арганізацыі адказвае ўправа, якая зацвярджае дадзены дакумент шляхам прыняцця рашэння.
Падрабязней пра тое, што павінна адлюстроўваць бухгалтарская палітыка, на poradnik.ngo.pl.

**Якія абавязковыя і рэгулярныя справаздачы павінны рабіць НГО?**
Арганізацыі павінны рабіць дзве справаздачы штогод: фінансавую (дадзеныя пра дзейнасць арганізацыі з фінансавага боку) і сутнасную (апісанне прадпрынятых

дзеянняў і іх вынікаў).
Таварыствы і фонды абавязаныя зрабіць і выслаць у падатковую інспекцыю **фінансавую** справаздачу, якую ў народзе называюць бухгалтарскім балансам. Справаздача – акрамя бухгалтарскага балансу – складаецца з выніковай справаздачы (альбо справаздачы пра прыбыткі і выдаткі) і дадатковай інфармацыі. Калі таварыства ці фонд вядзе гаспадарчую дзейнасць, то фінансавую справаздачу трэба выслаць і ў КРС.
Таварыствы не абавязаныя падаваць **сутнасную** справаздачу, хоць гэта не толькі добрая традыцыя, бо справаздача спатрэбіцца, напрыклад, калі мы захочам атрымаць датацыі. Аднак, гэта абавязаныя рабіць фонды. Яны павінны выслаць гадавую сутнасную справаздачу адпаведнаму міністру, напрыклад, культурніцкія арганізацыі – міністру культуры, да канца наступнага года.
Акрамя таго, у арганізацый ёсць розныя падатковыя абавязацельствы, напрыклад, кожная няўрадавая арганізацыя павінна (на адпаведным фармуляры CIT-8) накіраваць у падатковую інспекцыю справаздачу па падаходным падатку для юрыдычных асоб за дадзены год да 31 сакавіка наступнага года. Падрабязней на гэтую тэму ў poradnik.ngo.pl.

**Што такое карысныя грамадству арганізацыі (КГА)?**
Карысная грамадству арганізацыя – гэта арганізацыя, у якой ёсць прысвоены КРС юрыдычны статус грамадскай карысці. У Польшчы каля 7000 арганізацый маюць такі статус (усяго ў 2010 г. існавала каля 83 тыс. фондаў і таварыстваў). Атрымаць гэты статус могуць і таварыства, і фонды. Для гэтага неабходна пацвердзіць дзейнасць арганізацыі на працягу двух гадоў, такім чынам, толькі што створаная арганізацыя не можа адразу стаць карыснай грамадству арганізацыяй.
Істотай статусу карыснай грамадству арганізацыі з'яўляецца прынцып, што ў замен за некаторыя прывілеі (напрыклад, магчымасць атрымаць 1% падатку прыватных асоб) карысныя грамадству арганізацыі абавязаныя прытрымлівацца больш жорсткіх правілаў, звязаных з празрыстасцю дзеянняў, чым астатнія НГА.

**Ці ў НГА ёсць нейкія фінансавыя прывілеі, ці яны вызвалены ад падаткаў?**
Хоць на практыцы большасць таварыстваў і фондаў не плацяць падаходнага падатку, гэта не азначае, што арганізацыі аўтаматычна вызваляюцца ад такога абавязку. Такім чынам, падаходным падаткам не абкладаюцца даходы арганізацыі, статутнай мэтай якіх з'яўляецца навуковая, навукова-тэхнічная і асветніцкая дзейнасць, звязаная, у тым ліку, з адукацыяй студэнтаў, культурная дзейнасць, дзейнасць у галіне фізічнай культуры і спорту, аховы навакольнага асяроддзя, падтрымка грамадскіх ініцыятыў на карысць будовы дарог і тэлекамунікацыйнай сеткі на вёсцы ды забеспячэння вёскі вадой, дабрачыннасці, аховы здароўя і сацыяльнай дапамогі, прафесійнай і грамадскай рэабілітацыі інвалідаў ды рэлігійнага культу. Існуе, аднак, шэраг умоў, якія варта праверыць перад тым, як лічыць арганізацыю вываленай ад аплаты гэтага падатку.
Акрамя таго, таварыствы і фонды, якія працаўладкоўваюць супрацоўнікаў (стаўка, кантракт, дамова платнага аказання паслуг, дамова падраду), як працадаўца плацяць падаходны падатак ад фізічных асоб. Плацельшчыкаў



падатку на дадатковую вартасць (падатку на тавары і паслугі) датычыць менавіта падатак на дадатковую вартасць (такі падатак павінна плаціць няўрадавая арганізацыя ў сувязі з пэўным памерам атрыманых даходаў ад гаспадарчай ці платнай дзейнасці), а тых, хто арандуе памяшканне, можа датычыць падатак на нерухомасць.

**З якіх законных крыніц у Польшчы можна фінансаваць НГА?**
Таварыствы і фонды выкарыстоўваюць розныя крыніцы фінансавання сваёй дзейнасці, у прыватнасці:

- членскія ўзносы (толькі ў таварыствах),
- дабрачынныя ўзносы (грашовыя ўзносы і матэрыяльныя рэчы),
- датацыі з грамадскіх і прыватных сродкаў,
- спансорынг (толькі арганізацыі, якія вядуць гаспадарчую дзейнасць),
- адлічэнні 1% падаходнага падатку ад фізічных асоб (толькі карысныя грамадству арганізацыі),
- грамадскія зборы сродкаў,
- спадчына, субвенцыі,
- даходы ад гаспадарчай дзейнасці (толькі ў галіне, якая служыць ажыццяўленню статутавых мэтаў),
- іншыя крыніцы, напрыклад, крэдыты, пазыкі і т. п.

Падрабязней пра розныя крыніцы даходаў – на сайце *poradnik.ngo.pl.* Варта ўзгадаць пра датацыі, якімі карыстаецца шмат арганізацый. Датацыя (па-іншаму "грант") – гэта грошы, якія таварыства ці фонд атрымліваюць часцей за ўсё дзеля таго, каб выканаць пэўнае канкрэтнае заданне – праект. Датацыі могуць ісці з публічных сродкаў (напрыклад, з дзяржаўнай і лакальнай адміністрацыі: гарадскіх упраўленняў, упраўленняў маршалкаў і розных устаноў) альбо з еўрапейскіх фондаў (іх дае, у прыватнасці, Еўрапейская камісія пры дапамозе розных устаноў). Акрамя таго, датацыю можна атрымаць і ад польскага ці замежнага фонду. Фінансавыя дзеянні, што фінансуюцца з датацый, павінны адпавядаць статутным мэтам арганізацыі. Распарадчык грошай (грантадаўца, спонсар ці заказчык) акрэслівае ўмовы, на якіх даецца датацыя ці грант, віды заданняў, што неабходна выканаць, правілы разліку выдаткаў. Такія ўмовы падрабязна апісваюцца ў дамове.

**Ці арганізацыя можа прадаваць уласныя вырабы (напрыклад, кнігі, кашулі)?**
Таварыствы і фонды маюць права весці гаспадарчую дзейнасць – прадаваць свае паслугі і вырабы ды атрымліваць прыбытак. Гэта можа стаць крыніцай атрымання грошай на статутную дзейнасць (апісаную ў статуце), што дазволіць функцыянаваць без датацый ці дабрачынных узносаў. Права займацца гаспадарчай дзейнасцю маюць і карысныя грамадству арганізацыі.
У той жа час, няўрадавыя арганізацыі, у тым ліку, таварыствы і фонды, – гэта, па азначэнні, суб'екты, што функцыянуюць не дзеля атрымання прыбытку (аб чым гаворыцца ў Законе "Аб карысных грамадству арганізацыях"). З іншага боку, мэта гаспадарчай дзейнасці, як правіла, – атрымаць прыбытак. Што тут можна зрабіць?

Аднак, “класічнага” прадпрымальніка ад арганізацыі, якая вядзе гаспадарчую дзейнасць, адрознівае мэта. **Для наўрадавых арганізацый гаспадарчая дзейнасць – толькі інструмент атрымання сродкаў на статутную дзейнасць.** Такім чынам, зарабіць грошы, атрымаць прыбытак – гэта не з’яўляецца ані мэтай стварэння арганізацыі, ані сэнсам яе існавання, у адрозненні ад “класічных” камерцыйных гаспадарчых пачынанняў. Арганізацыі павінны знайсці залатую сярэдзіну паміж эканамічнымі заданнямі і статутнымі мэтамі.
Заканадаўчыя нормы не гавораць адназначна аб тым, наколькі развітай можа быць гаспадарчай дзейнасць арганізацыі. Толькі ў адносінах да карысных грамадству арганізацый закон “Аб карысных грамадству арганізацыях” акрэслівае, што яны “могуць займацца гаспадарчай дзейнасцю выключна, як дадатковай дзейнасцю, у параўнанні з карыснай грамадству дзейнасцю”.

## Фонд ці таварыства? Параўнанне таварыства і фонду

Як стварыць таварыства ці фонд? Што лепш у нашай сітуацыі? Чым потым прасцей займацца? Такія пытанні вельмі часта задаюць сабе тыя, хто прымае рашэнне аб фармалізацыі сваёй грамадскай дзейнасці. Складана сказаць, які варыянт лепшы, але можна звярнуць увагу на адрозненні і падабенствы таварыства і фонду, што аблегчыць прыняцце рашэння. Праўда, многія раяць іншаземцам ствараць менавіта фонды, але варта ўзважыць усе розныя фармальныя аргументы. У табліцы мы параўноўваем таварыствы і фонды і паказваем як іх адрозненні, так і падабенствы, з улікам некалькіх асноўных сфер.



| **Таварыства** | **Фонд** |
|---|---|
| **Заснавальнікі, сябры** | |
| Не менш за 15 заснавальнікаў (фізічныя асобы) | · фундатар – адзін ці некалькі (юрыдычныя і фізічныя асобы),<br>· яго грамадзянства і месца пражывання не мае значэння |
| · польскія грамадзяне,<br>· іншаземцы, прапісаныя ў Польшчы, могуць ствараць таварыствы (яны могуць быць сябрамі-заснавальнікамі),<br>· іншаземцы, не прапісаныя ў Польшчы, могуць толькі ўступіць у таварыства, аднак не могуць самі яго стварыць,<br>· асобы з поўнай дзеяздольнасцю,<br>· юрыдычная асоба – выключна, як падтрымліваючы сябра, які на агульным сходзе не мае права голасу | · няма паняцця “членства”, як у таварыстве |
| **Мэты і формы дзейнасці** | |
| Магчымая любая мэта, якая адпавядае заканадаўству. | Мэта павінна адпавядаць заканадаўству, быць карыснай з грамадскага і эканамічнага пункта гледжання. |
| Некамерцыйныя мэты | Некамерцыйныя мэты |
| Спецыфічныя для таварыства мэты:<br>· падтрымка ўласных сяброў (напрыклад, Таварыства аматараў гульні ў крыкет, галоўная мэта якога – развіццё зацікаўленняў і падтрымка | Мэта павінна быць рэальнай, аднак яна не можа палягаць на падтрымцы прадстаўнікоў улады. |

| | |
|---|---|
| сяброў таварыства),<br>· мэты могуць быць нерэальнымі, нерэчаіснымі (напрыклад, Таварыства шукальнікаў Атлантыды, мэта якога – пошук міфічнага кантынента). | |
| Магчымасць займацца бясплатнай і платнай, карыснай грамадству дзейнасцю. | Магчымасць займацца бясплатнай і платнай, карыснай грамадству дзейнасцю. |
| Дзейнасць можа адрасавацца<br>· сябрам арганізацыі,<br>· асобам не з дадзенай арганізацыі,<br>· сябрам арганізацыі і асобам не з дадзенай арганізацыі. | Дзейнасць павінна адрасавацца<br>· асобам не з дадзенай арганізацыі. |
| **Улады** | |
| · агульны сход ці сход сяброў арганізацыі,<br>· рэвізійная камісія,<br>· управа,<br>· ва ўлады могуць уваходзіць іншаземцы (у выпадку таварыства, якое толькі ствараецца, іншаземцы павінны быць прапісаны ў Польшчы) | · управа,<br>· орган унутранага кантролю (рада фонду, назіральная рада, рэвізійная камісія) – неабавязкова (абавязкова толькі ў фондзе, які хацеў бы атрымаць статус карыснай грамадству арганізацыі),<br>· ва ўлады могуць уваходзіць іншаземцы |
| **Маёмасць** | |
| На этапе стварэння маёмасць непатрэбная (капітал – гэта людзі). | · Падставай дзейнасці фонду з'яўляецца маёмасць, якую фонд атрымлівае ад фундатара – так званы статутны фонд, створаны фундатарам. Гэта могуць быць грошы, рухомая і нерухомая маёмасць,<br>· асобны фонд у памеры не менш за 1000 злотых на гаспадарчую дзейнасць. |
| **Крыніцы фінансавання** | |
| · членскія ўзносы,<br>· цэнтральная і лакальная адміністрацыя (напрыклад, датацыі),<br>· арганізацыі грантадаўцаў, | · цэнтральная і лакальная адміністрацыя (напрыклад, датацыі),<br>· арганізацыі грантадаўцаў,<br>· фізічныя і юрыдычныя асобы |



| | |
|---|---|
| · фізічныя і юрыдычныя асобы (напрыклад, дабрачынныя ўзносы, грамадскі збор сродкаў),<br>· уласная заработная дзейнасць (платная дзейнасць, карысная грамадству, гаспадарчая дзейнасць). | (напрыклад, дабрачынныя ўзносы, грамадскі збор сродкаў),<br>· уласная заработная дзейнасць (платная дзейнасць, карысная грамадству, гаспадарчая дзейнасць). |
| **Бухгалтэрыя** | |
| · бухгалтарскія кнігі,<br>· неабходна асобна праводзіць па бухгалтэрыі бясплатную і платную дзейнасць, карысную грамадству, ды гаспадарчую дзейнасць. | · бухгалтарскія кнігі,<br>· неабходна асобна праводзіць па бухгалтэрыі бясплатную і платную дзейнасць, карысную грамадству, ды гаспадарчую дзейнасць. |
| **Падаткі, ільготы і вызваленне ад падаткаў** | |
| · абавязацельства плаціць падаходны падатак ад юрыдычных асоб,<br>· ёсць магчымасць вызваліцца ад гэтага падатку пры ажыццяўленні мэт, пералічаных у Законе "Аб падаходным падатку ад юрыдычных асоб" | · абавязацельства плаціць падаходны падатак ад юрыдычных асоб,<br>· ёсць магчымасць вызваліцца ад гэтага падатку пры ажыццяўленні мэт, пералічаных у Законе "Аб падаходным падатку ад юрыдычных асоб" |
| **Справаздачы, кантроль** | |
| Орган знешняга і ўнутранага кантролю – стараста павета, на тэрыторыі якога знаходзіцца сядзіба таварыства. | Орган знешняга катролю і нагляду:<br>· адпаведны міністр па пытаннях фондаў (акрэслены фундатарам у статуце),<br>· стараста павета, на тэрыторыі якога знаходзіцца сядзіба таварыства. |
| Няма абавязацельства штогод пісаць сутнасную справаздачу наконт статутнай дзейнасці (сутнасную справаздачу), хоць на практыцы шматлікая таварыствы гэта робяць. | Абавязацельства штогод накіроўваць справаздачу наконт дзейнасці міністру, акрэсленаму фундатарам, як орган надзору (сутнасная справаздача). |
| Абавязацельства штогод накіроўваць справаздачу падатковай інспекцыі (фінансавая справаздача). | Абавязацельства штогод накіроўваць справаздачу падатковай інспекцыі (фінансавая справаздача). |
| **Час рэгістрацыі** | |
| Суд разглядае заяўку аб рэгістрацыі таварыства на працягу 3 месяцаў ад яе даты падачы. | Суд разглядае заяўку аб рэгістрацыі фонду на працягу 7 дзён ад яе даты падачы. |

Асноўны нарматыўны акт, што рэгулюе прынцыпы стварэння і дзейнасці таварыстваў, – Закон "Права аб таварыствах" ад 7 красавіка 1989 г. З ім трэба абавязкова азнаёміцца перад тым, як пачынаць грамадскую дзейнасць і ствараць таварыства.

## 1. Што такое таварыства?

Таварыства – гэта група людзей, аб'яднаных агульнай мэтай, агульнай ідэяй. Маторам дзейнасці таварыства з'яўляюцца людзі (сябры таварыства). Часта спачатку гэта група знаёмых, якія вырашылі штосьці зрабіць разам (напрыклад, падтрымаць сваіх суайчыннікаў за мяжой), ці асобы, якіх штосьці не задавальняе ў іх асяроддзі, і яны вырашылі гэта змяніць (напрыклад, дапамагчы мясцовым бяздомным жывёлам). Аднойчы яны прыходзяць да высновы, што хочуць развіваць такую дзейнасць, фармалізаваць яе і зарэгістраваць у

Агульнапольскім судовым рэестры, паколькі тады лягчэй будзе прадпрымаць некаторыя крокі, ужо як зарэгістраванае таварыства (напрыклад, збіраць грошы на правядзенне чарговай акцыі).

Заканадаўчае акрэсленне дадае да гэтага характэрныя рысы кожнага таварыства:

- **добраахвотнасць** азначае свабоду стварэння таварыстваў, добраахвотнасць уваходзіць у іх і з іх выходзіць, ніхто не можа нікога прымусіць быць сябрам нейкага таварыства,
- **самакіраванне** – гэта незалежнасць у адносінах да знешніх суб'ектаў ды свабода ў вызначэнні ўнутраных норм і правілаў,
- **трываласць** падкрэслівае, што таварыства існуе, незалежна ад канкрэтнага асабовага складу сяброў (пры ўмове, што іх, прынамсі, пятнаццаць),
- **некамерцыйная** мэта сведчыць пра тое, што мэта таварыства – не павелічэнне маёмаснага дабрабыту яго сяброў (нельга падзяліць маёмасць таварыства паміж яго сябрамі).

Польскае заканадаўства гарантуе раўнапраўнае, "незалежна ад перакананняў, права актыўна ўдзельнічаць у грамадскім жыцці і выражаць розныя погляды ды ажыццяўляць індывідуальныя інтарэсы" (прэамбула Закона "Права аб таварыствах"). Дадзенае права можа абмяжоўвацца, калі гаворка ідзе, у прыватнасці, пра абарону правоў і свабод іншых людзей (напрыклад, кагосьці прымусілі стаць сябрам таварыства). Акрамя таго, забаронена ствараць таварыствы, які "прытрымліваюцца правіла абсалютнай паслухмянасці сваіх сяброў у адносінах да ўладаў таварыства" (ч. 1 арт. 6).



## 2. Ад ідэі да дакументаў – як падрыхтаваць дакументы, патрэбныя для рэгістрацыі ў КРС

Таварыства, зарэгістраване ў КРС, прызначае не менш за 15 чалавек, якія прымаюць статут таварыства і выбіраюць устаноўчы камітэт (арт. 9). Асноўны плюс рэгістрацыі таварыства ў КРС – пераўтварэнне арганізацыі ў юрыдычную асобу, што значна пашырае магчымасці дзейнасці.

Гэта ўсё, пра што напісана ў законе. На практыцы стварэнне таварыства можна падзяліць на наступныя этапы:
1. Сустрэча мінімум 15 чалавек (будучых сяброў таварыства) у сувязі з агульнай ідэяй.
2. Праект статута – часцей за ўсё яго піша так званая працоўная група найбольш актыўных асоб.
3. Устаноўчы сход, на якім ствараецца таварыства, прымаецца яго статут і выбіраецца ўстаноўчы камітэт.
4. Падрыхтоўка дакументаў, неабходных для рэгістрацыі ў КРС, – гэта заданне выбранага на сходзе ўстаноўчага камітэта.
5. Падача дакументаў у КРС.

А зараз па чарзе звернем увагу на ўсе крокі, звязаныя са стварэннем таварыства.

### Першы крок – група людзей альбо хто можа стварыць таварыства?

Таварыства ствараюць людзі – фізічныя асобы (звычайныя сябры, часам для таго, каб падкрэсліць інфармацыю, што гэтыя людзі стварылі таварыства, іх называюць сябрамі-заснавальнікамі), якія:

- з'яўляюцца польскімі грамадзянамі,
- поўнасцю дзеяздольныя (асобы, якім споўнілася 18 гадоў і якія не прызнаныя недзеяздольнымі),
- не пазбаўленыя грамадскіх правоў.

Магчымасці, звязаныя з дзейнасцю ў таварыстве іншаземцаў, залежаць ад іх месца пражывання:

- калі іншаземцы жывуць і прапісаныя ў Польшчы, яны могуць ствараць таварыствы (быць сябрамі-заснавальнікамі), у адпаведнасці з законамі, якія датычаць польскіх грамадзян,
- калі іншаземцы жывуць не ў Польшчы (а ў Польшчы яны знаходзяцца часова, напрыклад, на стыпендыі, і не прапісаныя), то яны могуць быць сябрамі ці ўступаць у таварыства (быць звычайнымі сябрамі), калі статут таварыства прадугледжвае такую магчымасць. У такім выпадку, у іх такія ж правы і абавязкі, як і ў польскіх сяброў арганізацыі.

### Другі крок – праект статута

Важная справа – зацвердзіць статут таварыства – правілы, на падставе якіх будзе функцыянаваць таварыства. Аднак, спачатку гэты статут трэба напісаць. Статут павінен адлюстроўваць наступную асноўную інфармацыю пра таварыства (арт. 10):

- назва (якая адрознівае таварыства ад іншых арганізацый, установаў і т. п.),
- абшар дзейнасці і сядзіба,
- мэты і спосабы іх ажыццяўлення,
- шлях уступлення ў таварыства, правы і абавязкі сяброў, прычыны і працэдуры страты сяброўства ў таварыстве,
- інфармацыя пра ўлады таварыства, спосаб іх выбару, кампетэнцыю (у тым ліку, правілы дзейнасці агульнага схода сяброў, управы, рэвізійнай камісіі),
- спосаб прадстаўніцтва, узяцця на сябе маёмасных абавязацельстваў, умовы сапраўднасці рашэнняў,
- спосабы атрымання фінансавых сродкаў ды акрэслення членскіх узносаў,
- правілы змены статута,
- спосаб роспуску.

На практыцы распрацоўка статута выглядае так: група найбольш актыўных асоб (так званая працоўная група) піша яго праект на падставе ўзораў і статутаў іншых арганізацый. Папярэджваем вас, аднак, што не варта аўтаматычна перапісваць гатовыя ўзоры, бо пазней можна сутыкнуцца з праблемамі на практыцы. У добрым статуце павінны быць нормы, што дазволяць таварыству эфектыўна весці сваю дзейнасць. Акрамя таго, статут павінен адпавядаць актуальнаму заканадаўству. Калі ён будзе дрэнна напісаны, могуць з'явіцца праблемы ў штодзённай працы.

Сябры-заснавальнікі атрымліваюць праект статута для азнаямлення (па электроннай пошце, асабіста) за некалькі дзён да ўстаноўчага схода. Пасля азнаямлення ў іх ёсць магчымасць зрабіць заўвагі, папраўкі ці выказаць сумнеў адносна яго зместу падчас дыскусіі на тэму статута на ўстаноўчым сходзе. Калі з'явяцца прапановы зменаў, то неабходна вынесці іх на галасаванне. Пасля завяршэння дыскусіі аб статуце (прыняць ці адхіліць праўкі) сябры-заснавальнікі прымаюць рашэнне аб яго прыняцці. Яно павінна быць прынятае аднагалосна.

### Трэці крок – устаноўчы сход (падрыхтоўка, правядзенне і неабходныя рашэнні)

Наступны крок – скліканне ўстаноўчага схода. На ім, перадусім, прымаецца рашэнне аб стварэнні таварыства, статут і выбіраецца ўстаноўчы камітэт. Не варта баяцца фармальнасцей, звязаных са сходам. Перадусім, трэба вызначыць яго тэрмін і месца правядзення. Часцей за ўсё, гэтым займаецца так званая працоўная група – найбольш актыўныя асобы падчас стварэння таварыства, ад праекта статута да фармальнага правядзення схода.

У сходзе павінна ўдзельнічаць мінімум 15 чалавек – такім чынам, яны стануць сябрамі-заснавальнікамі нашага таварыства. Для надзейнасці лепш запрасіць на сход на некалькі чалавек больш, чым згаданыя 15, калі б апынулася, што хтосьці па нейкай прычыне не зможа ўдзельнічаць у сходзе. Варта загадзя знайсці асобу, якая спраўна правядзе сход (ён ці яна будзе старшынёй), ды асобу, якая напіша пратакол са схода (сакратара ці сакратарку).

Ніжэй мы прадстаўляем, як можа выглядаць такі сход, якія трэба прыняць рашэнні, і якія дакументы павінны застацца пасля схода. На павестцы дня могуць з'явіцца і іншыя пункты, важныя для дадзенага таварыства, напрыклад, прыняцце рашэння аб памеры членскіх узносаў ці падзеле функцый ва ўправе.

Прыкладны план ўстаноўчага схода таварыства:

1. Прывітанне і прадстаўленне мэты схода (асобамі з так званай працоўнай групы).
2. Выбар спосабу галасавання (ці рашэнні прымаюцца яўным ці тайным галасаваннем, простай большасцю ці абсалютнай большасцю галасоў. Памятайма, што рашэнні аб стварэнні таварыства і прыняцці статута павінны быць прынятыя аднагалосна).
3. Выбар старшыні (які вядзе сустрэчу) і сакратара (складае пратакол схода) – кандыдаты могуць вызвацца самыя ці быць заяўленымі іншымі асобамі.
4. Прыняцце рашэння аб стварэнні таварыства (рашэнне № 1).
5. Падпісанне спіса сяброў-заснавальнікаў (варта падрыхтаваць спіс загадзя, на практыцы можна даць падпісаць яго ўжо тады, калі людзі прыходзяць на сустрэчу. Тады, у дадзенай частцы сустрэчы, старшыня павінен проста праверыць, ці дакладна ўсе сябры падпісаліся на ўсіх экзэмплярах спіса).
6. Дыскусія наконт статута, пры неабходнасці, заява і зацверджанне паправак і заўваг.
7. Прыняцце рашэння аб зацвярджэнні статута (рашэнне № 2).
8. Заяўка кандыдатаў і выбар устаноўчага камітэта, напрыклад, 2 – 3 чалавек, таварыства (рашэнне аб выбары ўстаноўчага камітэта – рашэнне № 3).
9. Заяўка кандыдатаў і выбар управы (прыняцце рашэння аб выбары ўправы – рашэнне № 4).
10. Заяўка кандыдатаў і выбар рэвізійнай камісіі (прыняцце рашэння аб выбары рэвізійнай камісіі – рашэнне № 5).
11. Завяршэнне схода.

Устаноўчы сход мог бы скончыцца пасля выбару ўстаноўчага камітэта, аднак лепш на першым жа сходзе выбраць управу і рэвізійную камісію. Гэта дастаткова практычные рашэнне, бо адразу ж пасля рэгістрацыі таварыства ў КРС у нас будуць і зарэгістраваныя ўлады, неабходныя для таго, каб таварыства магло дзейнічаць. Інакш кажучы, пасля рэгістрацыі не трэба будзе праводзіць выбарчы сход і чакаць рэгістрацыі ўлад у КРС. Такім чынам, мы ашчаджаем час, патрэбны і на выбары (сустрэча, падрыхтоўка дакументаў), і на рэгістрацыю.

Асноўны дакумент з першага сходa таварыства – пратакол гэтага сходa. Іншыя дакументы – гэта

- спіс сяброў-заснавальнікаў,
- статут,
- рашэнне аб стварэнні таварыства,
- рашэнне аб прыняцці статута,
- рашэнне аб выбары ўстаноўчага камітэта,
- рашэнне аб выбары ўправы,
- рашэнне аб выбары рэвізійнай камісіі.

**Усе дакументы неабходна падрыхтаваць на польскай мове[13] мінімум у трох экзэмплярах: два мы падаем у суд, а адзін застаецца ў дакументацыі арганізацыі.** Таварыствы, якія адразу рэгіструюць гаспадарчую дзейнасць, рыхтуюць статут у чатырох экзэмплярах: тры – у суд, а адзін – у дакументацыю.

Ніжэй мы апісваем, што павінна быць у гэтых дакументах, як яны павінны гучаць, і хто іх падпісвае.

**1. Спіс сяброў-заснавальнікаў** з наступнымі дадзенымі: імя і прозвішча, дата і месца нараджэння, нумар пашпарта, ПЭСЭЛЬ, уласнаручны подпіс (вельмі важна!). Істотна, каб вядучы сустрэчу (старшыня) праверыў падчас пасяджэння, ці дакладна ўсе сябры падпісаліся пад усімі экзэмплярамі, і – калі былі нейкія недахопы – ці ёсць ужо ўсе дадзеныя.

Зручна, калі ў гэтым жа спісе ёсць дэкларацыя сяброў-заснавальнікаў аб наяўнасці польскага грамадзянства (калі ў сяброў-заснавальнікаў яно ёсць), поўнай дзеяздольнасці і поўных грамадскіх правах (ч. 1 арт. 3). Такую дэкларацыю павінен зрабіць кожны сябра-заснавальнік, таму яны знаходзіцца зверху, на спісе, так, як паказана ва ўзоры.

**Lista członków założycieli Stowarzyszenia... (przykładowy wzór)**

My, niżej podpisani założyciele stowarzyszenia o nazwie: Stowarzyszenie..., z siedzibą w... przy ul..., obecni na zebraniu w dniu... 2012 r., świadomi odpowiedzialności prawnej, – oświadczamy, że spełniamy warunki, określone w art. 3 ust. 1 Ustawy z dnia 7 kwietnia 1989 r. Prawo o stowarzyszeniach:

| imię i nazwisko | data i miejsce urodzenia | miejsce zameldowania | | | nr dowodu osobistego | PESEL | własnoręczny podpis |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | ulica | kod | miasto | | | |
| 1. … | … | Piękna 2/11 | 02-784 | Wrocław | DB 8119890 | 7001032 3071 | |
| 2. … | | | | | | | |
| 15. … | | | | | | | |
| | | | | | | | |

заснавальнікамі з'яўляюцца іншаземцы, прапісаныя ў Польшчы, такая заява выглядае крыху па-іншаму.

**Lista członków założycieli Stowarzyszenia... (przykładowy wzór)**

My, niżej podpisani założyciele stowarzyszenia o nazwie: Stowarzyszenie..., z siedzibą w... przy ul..., obecni na zebraniu w dniu... 2012 r., świadomi odpowiedzialności prawnej, – oświadczamy, że spełniamy warunki, określone w art. 4 ust. 1 Ustawy z dnia 7 kwietnia 1989 r. Prawo o stowarzyszeniach:

| imię i nazwisko | data i miejsce urodzenia | miejsce zameldowania | | | nr paszportu lub PESEL | własnoręczny podpis |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | ulica | kod | miasto | | |
| 1. … | … | Piękna 2/11 | 02-784 | Wrocław | … | |
| 2. … | | | | | | |
| 15. … | | | | | | |
| | | | | | | |

Гэты спіс мы рыхтуем у трох экзэмплярах. Два з іх мы накіроўваем у КРС, а трэці захоўваем для сябе, ва ўласнай дакументацыі. Удзельнікі сустрэчы падпісваюць усе тры экзэмпляры.

**2. Тэксты рашэнняў**, якія павінны быць прынятыя падчас схода:

- рашэнне аб стварэнні таварыства (рашэнне № 1), у трох экзэмплярах, падпісанае старшынёй і сакратаром ці сакратаркай схода,

**Uchwała nr 1 (przykładowy wzór)**

Zebrani w dniu... 2012 r. w... postanawiają założyć stowarzyszenie, którego pełna nazwa będzie brzmieć: Stowarzyszenie..., z siedzibą w... przy ulicy... Uchwała została przyjęta przez zebranych jednogłośnie.

Przewodniczący/-ca Sekretarz

- рашэнне аб прыняцці статута (рашэнне № 2), у трох экзэмплярах, падпісанае старшынёй і сакратаром ці сакратаркай схода,

**Uchwała nr 2 (przykładowy wzór)**

Uczestnicy zebrania założycielskiego na spotkaniu w dniu... 2012 r. ... postanawiają zaakceptować i przyjąć statut Stowarzyszenia... z siedzibą w... przy ulicy... (przyjęty statut ma brzmienie zgodne z załącznikiem do uchwały). Uchwała została przyjęta przez zebranych jednogłośnie.

Załącznik do uchwały – statut Stowarzyszenia... w treści przyjętej w dniu...

Przewodniczący/-ca Sekretarz

- рашэнне аб выбары ўстаноўчага камітэта (рашэнне № 3), у трох экзэмплярах, падпісанае старшынёй і сакратаром ці сакратаркай схода.

Рашэнне аб выбары камітэта абавязковае, бо таварыства павінна мець устаноўчы камітэт (арт. 9), нават калі на ўстаноўчым сходзе выбралі і ўправу, і рэвізійную камісію. Менавіта сябры ўстаноўчага камітэта падпісваюцца пад фармулярамі і падаюць дакументы на рэгістрацыю таварыства ў КРС. Звычайна ў камітэт выбіраць двух – трох чалавек. Варта, каб гэта былі асобы, у якіх будзе час заняцца рэгістрацыяй.

- Рашэнне аб выбары ўправы (рашэнне № 4), у трох экзэмплярах, падпісанае старшынёй і сакратаром ці сакратаркай схода.

**Uchwała nr 3 (przykładowy wzór)**

Zebrani w dniu... 2012 r. zgłosili następujące kandydatury na członków komitetu założycielskiego:

1. ............................
2. ............................
3. ............................itd.

W wyniku głosowania jawnego kandydaci do komitetu założycielskiego otrzymali następujące ilości głosów:

1. .............................. ; 2. ......................... ; 3. .......................... itd.

Wobec tego członkami komitetu założycielskiego wybrani zostali:

1. ............................
2. ............................

Założyciele Stowarzyszenia..., z siedzibą w... przy ulicy..., upoważniają członków komitetu założycielskiego w wymienionym powyżej składzie do zarejestrowania Stowarzyszenia... w sądzie... w...

Przewodniczący/-ca Sekretarz

Колькасць асоб, выбраных ва ўправу, ды спосаб выбару (ці выбары яўныя ці тайныя, ці мы адразу выбіраем на канкрэтныя функцыі, ці ўправа сама прымае рашэнне аб падзеле функцый ужо пасля выбараў) залежыць ад пастаноў статута. Варта, аднак, памятаць, што

- калі ў нас тайнае галасаванне, то перад выбарам управы трэба выбраць падліковую камісію, якая лічыць галасы. У выпадку яўнага галасавання, няма такой неабходнасці, паколькі галасы лічыць старшыня схода;

- калі ў статуце ў нас акрэслены функцыі сяброў управы (напрыклад, старшыня, намеснік старшыні, скарбнік), то ў нас павінен быць адпаведны дакумент (падаецца ў КРС), што пацвярджае падзел функцый (рашэнне ўстаноўчага схода альбо рашэнне новаабранай управы аб падзеле функцый);

**Uchwała nr 4 (przykładowy wzór)**

Zebrani w dniu... 2012 r. zgłosili następujące kandydatury na członków zarządu:

1. ............................
2. ............................
3. ...........................
4. ............................itd.

W wyniku głosowania tajnego kandydaci do zarządu otrzymali następujące ilości głosów:

1. .............................. ; 2. ......................... ; 3. .......................... ; 4. .......................... itd.

Wobec tego zgodnie z par. …….statutu członkami zarządu na poszczególne funkcje wybrani zostali:

1. ........................... – prezes
2. ........................... – wiceprezes
3. ........................... – skarbnik

Przewodniczący/-ca Sekretarz

- рашэнне аб рэвізійнай камісіі (рашэнне № 5), у трох экзэмплярах, падпісанае старшынёй і сакратаром ці сакратаркай схода.

Колькасць чалавек, выбраных у рэвізійную камісію, ды спосаб выбару гэтак жа, як і ў выпадку ўправы, залежыць ад пастаноў статута, аднак у суд ужо не трэба накіроўваць рашэння аб падзеле функцый у рэвізійнай камісіі, калі рашэнне гэтага пытання належыць да новаабранай камісіі.

**Uchwała nr 5 (przykładowy wzór)**

Zebrani zgłosili następujące kandydatury na członków komisji rewizyjnej:

1. ...........................
2. ...........................
3. ..........................
4. ..........................itd.

W wyniku głosowania tajnego kandydaci do komisji rewizyjnej otrzymali następujące ilości głosów:

1. .............................. ; 2. ......................... ; 3. .......................... 4. .......................... itd.

Wobec tego członkami komisji rewizyjnej wybrani zostali:

1. ........................... – przewodniczący/-ca
2. ...........................
3. ...........................

Przewodniczący/-ca Sekretarz

Рашэнні можна далучыць у якасці дадаткаў да пратакола (тады гэта асобныя дакументы) альбо ўпісаць у змест пратакола схода.
Пасля завяршэння схода ўстаноўчы камітэт адказвае за фармальнасці, звязаныя з рэгістарцыяй: ён павінен запоўніць адпаведныя фармуляры і ўкамплектаваць патрэбныя дакументы і дадаткі. Акрамя таго, неабходна прасачыць, ці напісаны пратакол устаноўчага схода ў трох экзэмплярах ды ці падпісаны ён старшынёй і сакратаром ці сакратаркай схода. Сабраныя дакументы і фармуляры падаюцца ў адпаведны для сядзібы таварыства КРС, што мы апішам у чарговым раздзеле.

## 3. Падача заяўкі аб рэгістрацыі таварыства ў КРС

Таварыства рэгіструецца ў раённым судзе, у адпаведнасці з месцам знаходжання яго сядзібы. Сябры ўстаноўчага камітэта павінны на працягу 7 дзён ад даты завяршэння ўстаноўчага схода падаць заяву ў КРС.
Рэгістарцыйная заяўка – гэта фармуляры і дакументы (дадаткі). Поўная заява (усе фармуляры і ўсе дакументы) падаюцца ў двух арыгінальных экзэмплярах. Трэці мы пакідаем сабе. Бланкі фармуляраў КРС выдаюць у судзе. Іх можна таксама адксерыць ці раздрукаваць з сайта www.ms.gov.pl альбо з poradnik.ngo.pl.
Рэгістрацыйную заяўку можна занесці ў аддзел пісьмаў адпаведнага суда ці выслаць яе па пошце на адрас суда – у такім выпадку лепш за ўсё выслаць заяўку заказным лістом і захаваць пацверджанне высылкі (калі заяўка згубіцца, то ў нас застанецца пацверджанне, калі мы яе выслалі).

**З чаго складаецца рэгістрацыйная заяўка?**

Асноўны фармуляр, на падставе якога рэгіструецца таварыства, – гэта фармуляр *KRS-W20*. Да яго мы далучаем:

1. **фармуляры:**
   - *KRS-WK* – органы суб'екта ці ўдзельнікі, якія маюць права прадстаўляць кампанію (інфармацыя пра орган, што мае права прадстаўляць суб'ект, асобы, якія ўваходзяць у яго склад, ды аб спосабе прадстаўніцтва) – тут мы ўказваем інфармацыю аб управе і рэвізійнай камісіі[14] (у двух асобных дадатках; на адным фармуляры *KRS-WK* мы можам упісаць дадзеныя дзвюх асоб: калі, напрыклад, ва ўправу ці рэвізійную камісію мы выбралі па 3 чалавекі, то запаўняем па два такіх фармуляры – і для ўправы, і для камісіі).
   - *KRS-WF* – заснавальнікі (інфармацыя пра асоб, якія ўваходзяць у склад устаноўчага камітэта) – гэты фармуляр мы падаем толькі тады, калі рэгіструем таварыства, якое на ўстаноўчым сходзе не выбрала ўправы і рэвізійнай камісіі.

Прыклады запоўненых фармуляраў заявак у КРС можна знайсці на сайце poradnik.ngo.pl.

**2. Дакументы** (арыгіналы альбо натарыяльна завераныя копіі):

- статут таварыства – два экзэмпляры, падпісаныя ўстаноўчым камітэтам,

- пратакол ўстаноўчага схода – два экзэмпляры, падпісаныя старшынёй і сакратаром схода,
- спіс сяброў-заснавальнікаў – два экзэмпляры, падпісаныя ўсімі сябрамі-заснавальнікамі,
- прынятыя на сходзе рашэнні – усе ў двух экзэмплярах, падпісаных старшынёй і сакратаром схода (рашэнне аб стварэнні таварыства, прыняцці статута, выбары ўстаноўчага камітэта, выбары ўправы і выбары рэвізійнай камісіі, калі прымаліся такія рашэнні).

Асоба, якая падае заяўку ў КРС, павінна далучыць і даведку аб **аплаце** рэгістрацыі ці заяву аб вызваленні ад яе (узор для HYPERLINK "http://poradnik.ngo.pl/files/poradnik.ngo.pl/public/wzory_statut/przyklad_statut_stowarzyszenie.rtf" таварыства можна знайсці на сайце poradnik.ngo.pl). Аднак, паколькі ч. 4 арт. 17 Закона "Аб таварыствах" вызваляе таварыствы ад аплаты за рэгістрацыю ў КРС, яны не абавязаныя плаціць за рэгістрацыю (падрабязней аб гэтым ніжэй). Дадзенае вызваленне не датычыць рэгістрацыі ў рэестры прадпрымальнікаў – тады, калі таварыства рэгіструе сваю гаспадарчую дзейнасць.

**Калі таварыства рэгіструе гаспадарчую дзейнасць, яно таксама накіроўвае дадатковыя фармуляры і дакументы, у адпаведнасці з прынцыпам так званага аднаго акна.**

У сувязі з гэтым, калі мы рэгіструем гаспадарчую дзейнасць, тады акрамя пералічаных фармуляраў і дакументаў да заявы далучаецца:

- дадатковы экзэмпляр статута,
- фармуляр ***KRS-WM***, патрэбны для заяўкі галіны гаспадарчай дзейнасці і, такім чынам, рэгістрацыі фонду ў рэестры прадпрымальнікаў (ён падаецца толькі тады, калі ў статуце таварыства прапісаная магчымасць весці гаспадарчую дзейнасць, і таварыства хоча распачаць яе адразу ж пасля рэгістрацыі ў КРС. Калі ў статуце таварыства прадугледжана магчымасць весці гаспадарчую дзейнасць, але таварыства хоча распачаць яе пазней, то такі фармуляр не падаецца),
- натарыяльна завераныя ўзоры подпісаў сяброў управы (альбо завераныя суддзёй ці ўпаўнаважаным судовым супрацоўнікам),
- пацверджанне аплаты за рэгістрацыю ў рэестры прадпрымальнікаў,
- пацверджанне аплаты за абвестку ў выданні "Монітор сондовы і господарчы",
- фармуляр *RG-1* – заяўка аб унясенні ў рэестр суб'ектаў нацыянальнай эканомікі (РЭГОН),
- фармуляр *NIP-2* – ідэнтыфікацыйная заяўка падаткаплацельшчыка ў падатковую інспекцыю з акрэсленнем адпаведнага кіраўніка падатковай інспекцыі, якому будзе падпарадкоўвацца таварыства,

дамова ці іншы дакумент, што пацвярджае права на памяшканне, у якім знаходзіцца сядзіба таварыства,



заяўка плацельшчыка ўзносаў у ЗУС[15] (калі арганізацыя нікога не працаўладковае, яна павінна падаць на гэты конт заяву).

Чатыры апошніх дадаткі Агульнапольскі судовы рэестр неадкладна (максімум на працягу 3 дзён) пасля рэгістрацыі арганізацыі ў рэестры прадпрымальнікаў перасылае адпаведным установам: падатковай інспекцыі, статыстычнаму ўпраўленню і ЗУС.
Пасля атрымання нумароў НІР і РЭГОН, таварыства павінна завіць аб іх у КРС.

**Пра што яшчэ варта памятаць?**

Неабавязкова падаваць дакумент, што пацвярджае законныя падставы заяўніка на памяшканне (напрыклад, дамову арэнды), у якім таварыства будзе весці дзейнасць, хіба што створанае таварыства адначасова рэгіструе гаспадарчую дзейнасць (пра якую мы пісалі раней). Аднак суд можа запатрабаваць такі дакумент (ч. 2 арт. 23 Закона "Аб КРС"[16]).
Нават, калі КРС не запатрабуе дамову на бязвыплатнае карыстанне ці дамову арэнды памяшкання, то варта ўсё ж паклапаціцца аб афармленні такога дакумента, бо ён абавязкова спатрэбіцца, калі пасля рэгістрацыі таварыства мы захочам атрымаць у падатковай інспекцыі яго нумар НІП.

У колькіх экзэмплярах падаецца заяўка? Уся рэгістрацыйная заяўка складаецца з двух арыгінальных экзэмпляраў (усе фармуляры і ўсе дакументы). Часта суды патрабуюць падачы двух экзэмпляраў фармуляраў з дадаткамі, на падставе ч. 2 арт. 13 Закона "Права аб таварыствах", які накладае на рэгістравыя суды абавязак уручыць кантрольнаму органу копію рэгістрацыйнай заяўкі. Менавіта таму, фармуляры з дадаткамі і ўсе пералічаныя дакументы неабходна падаваць у двух арыгінальных экзэмплярах.

Адзін экзэмпляр заявы, што падаецца ў КРС (усе дакументы і фармуляры) захоўваецца ў дакументацыі таварыства. Усе фармуляры падпісвае ўстаноўчы сход.

Ці за рэгістрацыю таварыства ў КРС трэба плаціць?

На падставе ч. 4 арт. 17 Закона "Права аб таварыствах", вытворчасць па справах, звязаных з рэгістрацыяй тварыства ў КРС, не абцяжарваецца судовымі аплатамі, і таварыства не павінна плаціць за рэгістрацыю ў КРС.

Таварыства, якое рэгіструецца ў КРС, павінна, аднак, памятаць пра наступныя аплаты:

- унясенне ў рэестр прадпрымальнікаў КРС (пры рэгістрацыі гаспадарчай дзейнасці) аплата = 1000 злотых,
- абвестка аб рэгістрацыі ў выданні "Монітор сондовы і господарчы" (калі адбываецца рэгістрацыя ў рэестры прадпрымальнікаў у сувязі з вядзеннем гаспадарчай дзейнасці; аплата = 500 злотых. Суд не можа вызваліць ад

аплаты за абвестку ў выданні “Монітор сондовы і господарчы”.

Такім чынам, рэгістрацыя таварыства, якое не рэгіструе гаспадарчай дзейнасці, павінна быць бяплатнай. А рэгістрацыя таварыства, якое адначасова рэгіструе гаспадарчую дзейнасць, каштуе 1000 злотых (500 злотых за ўнясенне ў рэестр прадпрымальнікаў + 500 злотых за абвестку ў выданні “Монітор сондовы і господарчы”).

Таварыства не павінна плаціць за рэгістрацыю ў КРС, і на практыцы часцей за ўсё так яно і ёсць. Аднак, у сувязі з функцыянаваннем закона “Аб судовых выдатках”, які наогул гаворыць аб тым, што аплата за ўнясенне ў КРС каштуе 250 злотых, могуць быць адрозненні ў аплаце за рэгістрацыю рознымі КРС. Калі мы ведаем, што акурат у нашым КРС спаганяецца аплата за рэгістрацыю таварыства, тады разам з рэгістрацыйнай заяўкай можна падаць хадайніцтва аб вызваленні ад аплаты ( яго ўзор для таварыства можна знайсці на сайце poradnik.ngo.pl). Памятайма, аднак, што магчымасць вызваліць ад аплаты не распаўсюджваецца на абвестку ў выданні “Монітор сондовы і господарчы”, таму, калі мы рэгіструем у КРС гаспадарчую дзейнасць, мы заўсёды заплацім за ўнясенне ў рэестр прадпрымальнікаў.

## IV. Як стварыць фонд?[23]

Асноўны нарматыўны акт, што рэгулюе прынцыпы стварэння і дзейнасці фондаў, – Закон “Аб фондах” ад 6 красавіка 1984 г. З ім трэба абавязкова азнаёміцца перад тым, як пачынаць грамадскую дзейнасць і ствараць фонд.

### 1. Што такое фонд?

Фонд – гэта няўрадавая арганізацыя, што ствараецца фундатарам шляхам волевыяўлення, зробленага ў прысутнасці натарыуса (альбо ў завяшчанні), з сацыяльна- і грамадскакарыснымі мэтамі, у каторай ёсць маёмасць для ажыццяўленне гэтых мэт і якая становіцца юрыдычная асобай з момантам рэгістрацыі ў КРС. Такім чынам, істотай фонду з’яўляецца наяўнасць маёмасці, прызначанай фундатарам на агульную карысную мэту. Пасля рэгістрацыі фонду апеку над маёмасцю і адказнасць за ажыццяўленне мэт бярэ на сябе ўправа.

**З якімі мэтамі можа стварацца фонд?**
Фонд можа стварацца дзеля ажыццяўлення мэт у адпаведнасці з інтарэсамі Польшчы, з сацыяльна- і грамадскакарыснымі мэтамі (арт. 1 Закона “Аб фондах”). Асноўныя каштоўнасці Рэспублікі Польшча адлюстраваныя ў Канстытуцыі, у раздзеле “Рэспубліка”. Мэты фонду не могуць супярэчыць гэтым каштоўнасцям. Калі яны ім супярэчаць – суд адмовіць у рэгістрацыі фонду. Акрамя адпаведнасці асноўным інтарэсам Польшчы, мэты фонду павінны быць істотнымі з сацыяльнага і эканамічнага пункта гледжання. Акрамя супадзення з асноўнымі інтарэсамі Польшчы, мэты фонду павінны быць істотныя з грамадскага ці эканамічнага пункта гледжання. У законе прыводзяцца прыклады, якія адпавядаюць дадзенай умове: ахова здароўя, развіццё эканомікі і навукі, асвета і выхаванне, культура і мастацтва, апека і сацыяльная дапамога, ахова навакольнага асяроддзя і помнікаў архітэктуры. Гэта азначае, што мэты фонду павінны мець грамадскі характар, служыць грамадскай карысці, а не выключна заспакойваць патрэбы індывідуальнага чалавека, напрыклад, спрыяць фундатару ці звязаным з імі асобам.

Часамі здаецца, што мэта, дзеля якой мы б хацелі стварыць фонд, дастаткова карысная, аднак суд фонду не рэгіструе. Важна памятаць, што, акрамя карыснасці, мэта павінна мець грамадскі характар. Напрыклад, мы хочам аказваць фінансавую дапамогу ў выглядзе шматгадовай стыпендыі канкрэтнаму дзіцяці-сіраце. Безумоўна, такая мэта з’яўляецца карыснай, але не мае грамадскага характару. Для таго, каб мэта мела патрэбны характар, неабходна было б адрасаваць дзеянні шырокаму колу асоб і прыняць рашэнне, што мэтай фонду стане, напрыклад, падтрымка дзяцей-сірот, стварэнне ім годных умоў жыцця, магчымасці атрымліваць адукацыю і г. д. Спосабамі ажыццяўлення сфармуляваных такім чынам мэт можа быць выплата стыпендый, псіхалагічная дапамога, прапагандаванне ідэі стварэння хатніх дзіцячых дамоў.

Рэч, на якую варта звярнуць увагу, – гэта некамерцыйны характар мэт. Фонд паўстае і дзейнічае не дзеля атрымання прыбытку. Усе даходы, як ад маёмасці, атрыманай ад фундатара, так і са сродкаў з іншых крыніц (напрыклад, з грамадскіх ахвяраванняў, ад гаспарадчай дзейнасці), фонд павінен накіраваць на тыя мэты, дзеля якіх ён створаны.

### 2. Хто стварае фонд?

Асоба, якая стварае фонд, завецца **фундатарам**. Ім можа стаць як польскі грамадзянін, так і іншазмец, бо, у адпаведнасці з законам, “фонд могуць ствараць фізічныя асобы, незалежна ад іх грамадзянства і месца пражывання” (ч. 1 арт. 2). Фонд можа стварыць і юрыдычная асоба (напрыклад, вышэйшая навучальная ўстанова, прыватная фірма), сядзіба якой знаходзіцца ў Польшчы ці за мяжой. Фундатараў можа быць некалькі: некалькі фізічных асоб, некалькі юрыдычных асоб альбо група, што складаецца і з адных, і з другіх.

Роля фундатара – зрабіць заяву (у форме натарыяльнага акта) аб стварэнні фонду і акрэсліць мэты, дзеля якіх ён паўстае, прызначыць на гэтыя мэты маёмасць ды напісаць статут. Фундатар можа вызначыць іншую асобу, адказную за дадзеныя заданні (падрабязней на гэтую тэму ў раздзелах аб фундатарскім акце ды статуце фонду).

Варта памятаць пра тое, што роля фундатара завершана пасля рэгістрацыі фонду, а адказнасць за яго маёмасць і дзейнасць бярэ на сябе ўправа. Фундатар, які хацеў бы падключыцца да дзейнасці створанага ім жа фонду (напрыклад, увайсці ў склад управы), можа зрабіць гэта толькі тады, калі статут фонду мае нормы, што акрэсліваюць функцыю, якую ён мог бы выконваць, альбо від рашэнняў, якія ён мог бы прымаць.

## 3. Ад ідэі да рэгістрацыі – установўчы фонд, статут, рэгістрацыя

На шляху ад ідэі стварыць фонд да пачатку яго дзейнасці трэба пераадолець некалькі этапаў. Яны неабходныя, каб фонд стаў юрыдычная асобай.

Для стварэння фонду і пачатку ім дзейнасці неабходна:
1. па-першае, вызначыць памер устаноўчага фонду і стварыць фундатарскі акт;
2. па-другое, апрацаваць статут – дакумент, які апісвае арганізацыю і спосаб яе дзейнасці;
3. па-трэцяе, зарэгістраваць фонд у КРС.

Два першыя крокі павінен зрабіць фундатар (ён можа вызначыць упаўнаважанага, які дзейнічае ад яго імя, а заяўку ў КРС можа накіраваць і ўправа). Апошняе заданне – рэгістрацыя ў КРС – прэрагатыва суда. З момантам рэгістрацыі ў КРС фонд становіцца юрыдычнай асобай.

А зараз па чарзе звернем увагу на ўсе крокі, звязаныя са стварэннем фонду.

### Першы крок – вызначэнне памеру ўстаноўчага фонду і стварэнне фундатарскага акта

Фундатар, акрамя вызначэння мэты ці мэт дзейнасці фонду, прымае рашэнне аб памеры маёмасці, прызначанай на ажыццяўленне гэтай мэты. Сродкі, дэкларааваныя (а пазней перададзеныя) фундатарам, павінны даць фонду магчымасць дзейнічаць. Гэтая маёмасць стане так званым устаноўчым фондам. У яго склад могуць увайсці грошы, каштоўныя паперы, рухомая і нерухомая маёмасць, перададзеная ва ўласнасць фонду (чч. 2-3 арт. 3).
Маёмасць, прызначаная на ажыццяўленне мэт фонду, павінна даць яму магчымасць пачаць дзейнасць. Рашэнні наконт памеру ўстаноўчага фонду прымае фундатар.
Мінімальны памер устаноўчага фонду залежыць ад таго, ці фонд захоча распачынаць гаспадарчую дзейнасць, ці не. Для фондаў, якія не хочуць займацца гаспадарчай дзейнасцю, у законе дакладна не акрэсліваецца, колькі павінна складаць мінімальная вартасць маёмасці. Лічыцца, што мінімальны памер устаноўчага фонду – ад 500 да 1000 злотых. Складана, аднак, адназначна заявіць, што маёмасць, прызначаная на ажыццяўленне мэты фонду, мусіць змясціцца ў гэтых рамах. Здараецца, што фундатары прызначаюць меншыя сумы на стварэнне новай арганізацыі, і суды іх рэгіструюць.
Сітуацыя фондаў, якія збіраюцца займацца выключна статутнай дзейнасцю, адрозніваецца ад тых фондаў, якія будуць мець і гаспадарчую дзейнасць. Падзел маёмасных сродкаў устаноўчага фонду павінен сведчыць аб тым, што статутная дзейнасць з'яўляецца асноўнай дзейнасцю фонду, таму на яе павінна быць прызначана большая сума, чым на гаспадарчую дзейнасць. У законе дакладна акрэслена толькі мінімальная сума, якую фундатар павінен накіраваць на гаспадарчую дзейнасць, – 1000 злотых. Напрыклад, мінімальная вартасць маёмасці фонду магла б складаць каля 2500 злотых, з якіх 1500 злотых прыначалася б на ажыццяўленне статутных мэт фонду, а 1000 злотых – на гаспадарчую дзейнасць.
У выпадку фонду, што займаецца гаспадарчай дзейнасцю, з устаноўчага фонду павінны быць выдзеленыя сродкі на статутную і гаспадарчую дзейнасць, прычым на статутную дзейнасць іх павінна пайсці больш. У сваю чаргу, на гаспадарчую актыўнасць мы не можам прызначыць менш за 1000 злотых. У выпадку ж фонду, які не плануе гаспадарчай дзейнасці, не акрэслена мінімальная вартасць маёмасных сродкаў.

**Фундатарскі акт, выдаткі і ўзор**
Фундатарскі акт – гэта волевыяўленне фундатара, мэта якога – стварыць фонд. Фундатарскі акт акрэслівае мэту фонду і маёмасць, прызначаную на ажыццяўленне гэтай мэты. Па законе фундатарскі акт павінен мець форму натарыяльнага акта, таму фундатар мусіць звярнуцца да натарыуса і ў яго прысутнасці выразіць волю стварэння фонду. Натарыус запіша гэта ў форме натарыяльнага акта (выключэннем з'яўляецца сітуацыя, калі фонд ствараецца на падставе завяшчання). Фундатара можа прадстаўляць упаўнаважаны прадстаўнік, аднак ён павінен мець даверанасць, таксама ў форме натарыяльнага акта.
Натарыяльны акт можна скласці і за мяжой. У яго будзе такая ж моц, як і ў акта, створанага натарыусам у Польшчы, аднак, пры ўмове, што ён будзе створаны польскім консулам пасля атрымання ад міністра юстыцыі пісьмовай даверанасці, выдадзенай на падставе заявы міністра, адказнага за замежныя справы (чч. 4 і 5 арт. 19 Закона "Аб функцыях консулаў у Рэспубліцы Польша"[24]).

**Волевыяўленне аб стварэнні фонду павінна акрэсліваць мэту ці мэты яго стварэння і маёмасць, прызначаную на яе ці іх ажыццяўленне. Акрамя таго, фундатар у заяве можа акрэсліць міністра[25], які будзе ажыццяўляць кантроль фонду.**

Узор волевыяўлення на польскай мове можна знайсці на сайце poradnik.ngo.pl.

Перад тым, як фундатар накіруецца да натарыуса (які складзе натарыяльны акт), ён павінен прыняць рашэнне, маёмасць якой вартасці ён прызначыць на фонд, і якім мэтам яна будзе служыць. Калі фундатараў некалькі, яны паміж сабой вырашаюць, якую менавіта маёмасць передае кожны з іх. Калі ва ўстаноўчы фонд увойдуць, напрыклад, творы мастацтва, дом, машына, то яны павінны быць ацэнены.

**Колькі каштуе падпісанне натарыяльнага акта?**

За натарыяльны акт натарыус спаганяе з фундатара аплату, так званы натарыяльны тарыф. Яго памер залежыць ад маёмасці, прызначанай на ажыццяўленне мэт фонду. Чым большая вартасць устаноўчага фонду, тым вышэйшы тарыф.
Прадстаўленая ніжэй табліца паказвае, якая можа быць максамальная стаўка[26], у залежнасці ад памеру ўстаноўчага фонду.
Дадзеныя сумы прыведзены ў максімальным памеры. Што гэта значыць?

| Памер устаноўчага фонду | Максімальная стаўка натарыяльнага тарыфу |
|---|---|
| да 3 000 злотых | 100 злотых |
| больш за 3 000 злотых – да 10 000 злотых | 100 злотых + 3% ад перавышэння больш за 3 000 злотых |
| больш за 10 000 злотых – да 30 000 злотых | 310 злотых + 2% ад перавышэння больш за 10 000 злотых |
| больш за 30 000 злотых – да 60 000 злотых | 710 злотых + 1% ад перавышэння больш за 30 000 злотых |
| больш за 60 000 злотых – да 1 000 000 злотых | 1 010 злотых + 0,4% ад перавышэння больш за 60 000 злотых |
| больш за 1 000 000 злотых – да 2 000 000 злотых | 4 770 злотых + 0,2 % ад перавышэння больш за 1 000 000 злотых |
| больш за 2 000 000 злотых | 6 770 злотых + 0,25% ад перавышэння больш за 2 000 000 злотых, аднак не больш за 10 000 злотых |

*ПРЫКЛАД: За волевыяўленне стварэння фонду ў прысутнасці натарыуса, устаноўчы фонд якога – 5 000 злотых, натарыус мае права максімальна спагнаць 100 злотых плюс 3% за перавышэнне больш за 3 000 злотых. Пры 5 000 маёмаасці гэтае перавышэнне – 2 000 злотых. 3% ад 2 000 злотых – гэта 60, такім чынам максімальны натарыяльны тарыф – 160 злотых (100 злотых плюс 60 злотых). Памятайма, што да сумы 160 злотых далічваецца 23% падатку на дадатковую вартасць.*

## Крок другі – распрацоўка статута

Фонд дзейнічае на падставе заканадаўчых норм, што датычаць фондаў і статута. Статут – асноўны дакумент фонду, яго роля – дапаўняць заканадаўчыя рэгуляцыі, быць крыніцай унутранага права для дадзенага фонду.
Стварэнню статута варта прысвяціць дастаткова шмат часу. Ён павінен быць, як пашытая на замову вопратка. Гэта яго параграфы ў будучыні паўплываюць на дзейнасць фонду. Неабавязкова замаўляць напісанне статута ў юрыста, бо мы самыя лепш за ўсё ведаем, якой дзейнасцю мы хочам займацца, з колькіх чалавек павінна складацца ўправа, на які час яна будзе выбірацца і г. д. Няблага перад пачаткам працы над статутам азнаёміцца з аналагічнымі дакументамі ўжо існуючых фондаў. Памятайма, аднак, што некрытычнае, аўтаматычнае капіравання чужых пастаноў можа прынесці ў будучыні больш клопатаў, чым карысці.
**У прынцыпе, распрацоўкай статута займаецца фундатар, хоць для гэтага задання ён можа вызначыць кагосьці іншага (тады ён павінен мець пісьмовую даверанасць на падрыхтоўку статута ад імя фундатара).** Гэта можа – хоць няма такога абавязку – быць выражана ў натарыяльным акце – волевыяўленні стварэння фонду. Калі фонд ствараецца ў завяшчанні, і фундатар не напісаў статута альбо не назваў чалавека, які ад яго імя павінен гэта зрабіць, тады такі абавязк бяруць на сябе спадкаемцы ці выканаўцы завяшчання. Фундатар павінен падпісаць створаны статут (альбо гэта робіць асоба, вызначаная фундатарам), а калі фундатараў некалькі – гэта робіць кожны з іх.
Статут дадаецца да рэгістрацыйнай заяўкі фонду. Заданне суда – праверыць, ці ў статуце адлюстраваныя ўсе прадугледжаныя законам нормы, і ці яго пастановы адпавядаюць заканадаўству.

**Якія элементы статута фонду абавязковыя, а якія – дадатковыя?**

Існуюць пэўныя абавязковыя элементы статута і такія, якія могуць быць, хоць не з'яўляюцца абавязковымі  (ч. 1 арт. 5). Абавязковыя элементы статута кожнага фонду:

- назва фонду,
- сядзіба,
- маёмасць,
- мэты, прынцыпы, формы і абшар дзейнасці фонду,
- склад і арганізацыя ўправы, спосаб прызначэння, правы і абавязкі ўправы і яе сяброў.

Акрамя дадзеных элементаў, у статут могуць увайсці пастановы адносна, напрыклад, дазволу вядзення фондам гаспадарчай дзейнасці, змены мэты, статута ды стварэння іншых улад, чым ўправа. Ніжэй прадстаўлены асноўныя

пытанні, звязаныя з абавязковымі элементамі статута.

**Назва фонду**

Закон не акрэслівае ніякіх правілаў пры стварэнні назвы фонду. Няма і патрабавання, каб назва адрознівалася ад назваў ужо існуючых фондаў. У ёй неабавязкова павінна быць само слова "фонд". Варта ўсё ж памятаць, што назва надае арганізацыі індывідуальны характар. Асноўнае правіла пры яе выбары – каб у назве не было фармулёвак, што ўводзяць у зман, звязаных з мэтай арганізацыі і відам яе юрыдычнай асобы. Такім чынам, назва фонду не можа мець выразаў, выкарыстоўванне якіх (напрыклад, "банк") ашуквала б і падпіхвала да думкі, што мы маем справу з іншай катэгорыяй юрыдычных асоб.

**Сядзіба фонду**

Сядзіба фонду павінна знаходзіцца на тэрыторыі Польшчы. Яна акрэсліваецца ўказаннем мясцовасці. Фонд, які вядзе дзейнасць на тэрыторыі аднаго ваяводства, а не, напрыклад, ўсёй краіны, павінен мець сядзібу менавіта ў гэтым ваяводстве.

**Маёмасць фонду**

У статуце павінны быць тыя ж пастановы, што прагучалі ў волевыяўленні – стварэнні фонду: інфармацыя пра маёмасць, якую фундатар прызначае на ўстаноўчы фонд. Акрамя таго, статут гаворыць аб крыніцах даходу фонду, якімі могуць быць, у прыватнасці, дабрачынныя ўзносы, спадчына, грамадскія зборы сродкаў, банкаўскія працэнты, даходы ад гаспадарчай дзейнасці (калі вядзенне такой дзейнасці прадугледжана статутам). Варта памятаць, што пры вычарпанні сродкаў фонд ліквідуецца.

**Статутная дзейнасць**

Па законе статут фонду павінен акрэсліваць мэты, прынцыпы, формы і абшар дзейнасці фонду. Прынцыпы, формы ды абшар дзейнасці на практыцы ў статутах апісваюцца, як спосабы ажыццяўлення мэт. Статутнай дзейнасцю з'яўляюцца запісаныя ў статуце віды дзейнасці, якой можа займацца фонд дзеля ажыццяўлення пастаўленых мэтаў. Спосабы ажыццяўлення мэтаў фонду акрэсліваюць, на што можа быць прызначана яго маёмасць, таму яны павінны быць дакладна і вычарпальна апісаныя ў статуце. Фонд не можа займацца дзейнасцю, не апісанай у статуце.

**Эканамічная дзейнасць**

Фонд, акрамя статутнай дзейнасці, можа займацца і гаспадарчай дзейнасцю, якая палягае на прыбытковым продажы тавараў і паслуг. Умова пачатку такой дзейнасці фондам – пастанова ў статуце, якая дазваляе гэта рабіць, і ўнясенне фонду ў рэестр прадпрымальнікаў.

Гаспадарчая дзейнасць ніколі не можа дамінаваць над статутнай дзейнасцю. Гаспадарчая дзейнасць можа быць толькі дапаможнай і весціся ў аб'ёме, неабходным для рэалізацыі статутных мэт.

**Улады фонду**

Адзіным, абявязковым органам фонду, неабходным па законе, з'яўляецца ўправа (ч. 1 арт. 5).

Няма адназначнага адказу на пытанне, з колькіх чалавек яна павінна складацца. Спрэчкі можа выклікаць аднаасабовая ўправа, чаго ўжо не скажаш пра калегіяльную ўправу, якая складаецца прынамсі з двух чалавек. Статут фонду павінен дакладна апісваць працэдуры выбару сяброў управы, яе правы і абавязкі.

Акрамя ўправы, фонд можа мець іншыя органы, напрыклад, орган унутранага кантролю (ён можа называцца радай фонду).

Важна, каб статут дакладна апісваў спосаб прызначэння, адклікання і кампетэнцыі кожнага органа. Выбар сяброў управы альбо іншых органаў павінен адбывацца на падставе рашэння, прынятага ў адпаведнасці са статутам фонду.

Фонд, які плануе атрымаць статус карыснай грамадству арганізацыі, абавязаны мець як рэпрэзентацыйны орган (управу), так і орган унутранага кантролю ці надзору (напрыклад, рада фонду), сябры якога адпавядаюць пэўным патрабаванням.

## 4.Падача рэгістрацыйнай заяўкі ў КРС

Фонд рэгіструецца ў раённым судзе, у адпаведнасці з месцам знаходжання яго сядзібы. Рэгістрацыйную заяўку падае фундатар (альбо асоба, ўпаўнаважаная ім падаваць рэгістрацыйную заяўку) ці ўправа фонду. Яе трэба падаць на працягу 7 дзён ад стварэння фундтарскага акта.

Рэгістрацыйная заяўка – гэта фармуляры і дакументы (дадаткі). Поўная заяўка (усе фармуляры і ўсе дакументы) падаецца ў адным экзэмпляры, за выключэннем статута, які даецца ў трох арыгінальных экзэмплярах. Другі экзэмпляр заяўкі мы пакідаем сабе.

Бланкі фармуляраў КРС выдаюць у судзе. Акрамя таго, іх можна адксерыць ці раздрукаваць з сайта poradnik.ngo.pl.

Рэгістрацыйную заяўку можна занесці ў аддзел пісьмаў адпаведнага суда ці выслаць яе па пошце на адрас суда – у такім выпадку лепш за ўсё выслаць заяўку заказным лістом і захаваць пацверджанне высылкі (калі заяўка згубіцца, то ў нас застанецца пацверджанне, што мы яе выслалі).

**З чаго сладаецца рэгістрацыйная заяўка?**

Асноўны фармуляр, на падставе якога ў КРС рэгіструецца новы фонд, – гэта фармуляр *KRS-W20*. Да яго мы далучаем:

**1.** фармуляр ***KRS-WK,*** які служыць для рэгістрацыі асоб-сяброў управы і нагляднага органа. Адзін фармуляр *KRS-WK* падаецца тады, калі статут фонду прадугледжвае прызначэнне толькі прадстаўнічага органа. У такім выпадку, ён запаўняецца толькі для ўправы (на падставе статута цытуецца спосаб прадстаўніцтва). Акрамя таго, мы перадаем інфармацыю пра сяброў управы з указаннем іх функцый. Калі ў фонду ёсць яшчэ орган унутранага кантролю, мы падаем другі фармуляр *KRS-WK* з дадзенымі асоб-сяброў дадзенага органа, без іх функцый (у залежнасці ад зместу статута, орган унутранага кантролю можа называцца, напрыклад, рада фонду, рэвізійная камісія).

Прыклады запоўненых фармуляраў заявак у КРС можна знайсці на сайце *poradnik.ngo.pl.*

Усе рэгістрацыйныя фармуляры павінны быць у адпаведным месцы падпісаны фундатарам (фундатарамі) ці ўправай;

**2. дакументы** (арыгіналы ці натарыяльна завераныя копіі):
- заява аб стварэнні фонду (натарыяльны акт ці іншы дакумент – глядзі інфармацыю пра фундатарскі акт),
- заява з выбарам адпаведнага міністра па нагляду (калі ён не згадваецца ў фундатарскім акце),
- статут (у трох экзэмплярах, падпісаны фундатарам),
- рашэнні аб прызначэнні органаў фонду – у залежнасці ад палажэнняў статута, – якія вызначаюць узаемаадносіны паміж органамі фонду. Такія рашэнні могуць прымацца рознымі органамі, напрыклад, калі па статуце менавіта фундатар склікае ўправу і раду фонду (іх прыклады прыведзены ніжэй), то рашэнні аб стварэнні гэтых органаў павінны дадавацца да рэгістрацыйнай заўкі фонду.



**Прыкладныя ўзоры рашэнняў**

**Uchwała nr 1 fundatorów Fundacji... w sprawie wyboru członków Zarządu**
**(przykładowy wzór)**

………., dn. …….. 2012 r.

Na podstawie par. 37 statutu Fundacji... fundatorzy w osobach... podjęli decyzję o wyborze do Zarządu następujących osób:

Funkcję Prezesa Zarządu Fundacji... przyznaje się Panu (Pani)...

Funkcję Wiceprezesa będzie pełnił (-a):...

Funkcję Sekretarza obejmie:…

Podpisy fundatorów…

**Uchwała nr 2 fundatorów Fundacji... w sprawie wyboru członków Rady Fundacji**
**(przykładowy wzór)**

………., dn. …….. 2012 r.

Na podstawie par. 26 statutu Fundacji... fundatorzy w osobach… podjęli decyzję o wyborze do Rady Fundacji następujących osób:
1. ……………
2. ……………
3. ……………

Fundatorzy postanowili, że Przewodniczącym Rady Fundacji będzie...

Podpisy fundatorów…

- Пацверджанне рэгістрацыйнай аплаты – заяўнік, які рэгіструе фонд у КРС, далучае даведку аб аплаце рэгістрацыі ці хадайніцтва аб вызваленні ад аплаты[28] (ўзор дляфондаў знаходзіцца на сайце poradnik.ngo.pl). Аплата ажыццяўляецца на банкаўскі рахунак суда (яго можна знайсці на сайце www.ms.gov.pl) альбо ў касе суда, у якім падаецца заяўка. Вызваленне ад аплаты не датычыць рэгістрацыі ў рэестры прадпрымальнікаў – тады, калі фонд рэгіструе гаспадарчую дзейнасць.

**Калі фонд рэгіструе гаспадарчую дзейнасць, то падае і дадатковыя фармуляры, і дакументы, у адпаведнасці з прынцыпам так званага аднаго акна.** У сувязі з гэтым, калі мы рэгіструем гаспадарчую дзейнасць, то акрамя ўсіх вышэйпералічаных фармуляраў і дакументаў да заяўкі неабходна далучыць:

- дадатковы экзэмпляр статута,
- фармуляр KRS-WM, патрэбны для заяўкі гаспадарчай дзейнасці і, такім чынам, для рэгістрацыі фонду ў рэестры прадпрымальнікаў (ён падаецца толькі тады, калі ў статуце фонду прапісаная магчымасць весці гаспадарчую дзейнасць, і фонд хоча распачаць яе адразу ж пасля рэгістрацыі ў КРС. Калі ў статуце фонду прапісана мачымасць займацца гаспадарчай дзейнасцю, але фонд хоча распачаць яе пазней, то такі фармуляр не падаецца),
- натарыяльна завераныя ўзоры подпісаў сяброў управы (альбо завераныя суддзёй ці ўпаўнаважаным судовым супрацоўнікам),
- пацверджанне аплаты за ўнясенне ў рэестр прадпрымальнікаў,
- пацверджанне аплаты за абвестку ў выданні "Монітор сондовы і господарчы",
- фармуляр RG-1 – заяўка аб рэгістрацыі ў рэестры суб'ектаў нацыянальнай эканомікі (РЭГОН),
- фармуляр NIP-2 – ідэнтыфікацыйная заяўка падаткаплацельшчыка ў падатковую інспекцыю з акрэсленнем адпаведнага кіраўніка падатковай інспекцыі, якому будзе падпарадкоўвацца фонд,
- дамова ці іншы дакумент, што пацвярджае права на памяшканне, у якім знаходзіцца сядзіба фонду,
- заяўка плацельшчыка ўзносаў у ЗУС (калі арганізацыя нікога не працаўладковае, яна павінна падаць на гэты конт заяву).

Чатыры апошнія дадаткі Агульнапольскі судовы рэестр неадкладна (максімальна на працягу 3 дзён) пасля рэгістрацыі арганізацыі ў рэестры прадпрымальнікаў перасылае адпаведным установам: падатковай інспекцыі, статыстычнаму ўпраўленню і ЗУС.
Пасля атрымання нумароў НІР і РЭГОН, таварыства павінна завіць аб іх у КРС.

**Пра што яшчэ варта памятаць?**
Неабавязкова падаваць дакумент, што пацвярджае законныя падставы заяўніка на памяшканне (напрыклад, дамову арэнды), у якім фонд будзе весці дзейнасць, хіба што створаны фонд адначасова рэгіструе гаспадарчую дзейнасць (пра якую мы пісалі раней). Аднак суд можа запатрабаваць такі дакумент (ч. 2 арт. 23 Закона "Аб КРС"[29]).
Нават, калі КРС не запатрабуе дамову на бязвыплатнае карыстанне ці дамову арэнды памяшкання, то варта ўсё ж паклапаціцца аб афармленні такога дакумента, бо ён абавязкова спатрэбіцца, калі пасля рэгістрацыі фонду мы захочам атрымаць у падатковай інспекцыі яго нумар НІП.

У колькіх экзэмплярах падаецца заяўка? Уся рэгістрацыйная заяўка на польскай мове (усе фармуляры і ўсе дакументы[30]) падаюцца ў адным экзэмпляры, за выключэннем статута, які павінен быць у трох арыгінальных экзэмплярах. Другі экзэмпляр заявы, што падаецца ў КРС (усе дакументы і фармуляры), захоўваецца ў дакументацыі.

Колькі каштуе рэгістрацыя фондаў у КРС?
Фонд, які падае рэгістрацыйную заяўку ў КРС, павінен яе аплаціць і далучыць да зяўкі даведку аб аплаце. Аплата ажыццяўляецца на банкаўскі рахунак суда (яго можна знайсці на сайце www.ms.gov.pl) альбо ў касе суда, у якім падаецца заяўка.

Такім чынам, у фонду будуць наступныя выдаткі:

- фонд, які не будзе весці гаспадарчую дзейнасць і рэгіструецца выключна ў рэестры фондаў, таварыстваў (…) ды публічных устаноў аховы здароўя – 250 злотых,
- фонд, які будзе займацца гаспадарчай дзейнасцю і рэгіструецца як у рэестры фондаў, таварыстваў (…), так і ў рэестры прадпрымальнікаў – 1000 злотых, з якіх 500 злотых – аплата за ўнясенне ў рэестр прадпрымальнікаў, а 500 – за абвестку аб рэгістрацыі ў выданні "Монітор сондовы і господарчы" (тады ўжо не плаціцца за ўнясенне ў рэестр фондаў, бо пры адначасовай рэгістрацыі ў двух рэестрах суд спаганяе толькі адну аплату. Гэта адпавядае прынцыпу, што калі нормы прадугледжваюць для дадзенага віду спраў аплаты розных памераў, то спаганяецца большая аплата).

Можна хадайнічаць аб вызваленні ад рэгістрацыйнай аплаты (узор для фондаў можна знайсці на сайце poradnik.ngo.pl). Памятайма, аднак, што магчымасць быць вызваленым ад аплаты не датычыць унясення ў рэестр прадпрымальнікаў, менавіта тады, калі фонд рэгіструе гаспадарчую дзейнасць.

## V. Прадстаўніцтвы замежных фондаў

Створаныя за мяжой фонды, якія хочуць дзейнічаць у Польшчы, могуць адкрыць тут новы фонд альбо сваё прадстаўніцтва. Спосаб стварэння такога фонду такі ж, як апісаны ў чацвёртым раздзеле.
Безумоўна, замежныя фонды могуць ствараць свае прадстаўніцтвы (напрыклад, Фонд Гайнрыха Бёлля – польскае прадстаўніцтва). Умовай з'яўляецца дазвол міністра, адпаведнага з пункта гледжання абшару яго дзейнасці, і мэты стварaемага прадстаўніцтва. Згода міністра залежыць ад таго, ці мэта, дзеля якой замежны фонд хоча стварыць у Польшчы сваю арганізацыйную адзінку, адпавядае мэтам, на падставе якіх могуць стварацца польскія фонды.

Прадстаўніцтва можа быць створана дзеля ажыццяўлення мэтаў, што адпавядаюць інтарэсам Польшчы, карысных з грамадскага ці эканамічнага

пункта гледжання, у прыватнасці, у галіне аховы здароўя, развіцця навукі і эканомікі, асветы і выхавання, культуры і мастацтва, апекі і сацыяльнай дапамогі, аховы навакольнага асяроддзя і помнікаў архітэктуры.

Законам не акрэсленыя дакументы, патрэбныя для хадайніцтва міністру з просьбай стварыць прадстаўніцтва. Прадстаўніцтва можа, аднак, ствараца пры згодзе адпаведнага органа галоўнага фонду на падставе магчымасцей, якія дае статут арганізацыі.

Таму, на нашу думку, часткай хадайніцтва павінен быць:
- завераны статут замежнага фонду (арыгінал і пераклад на польскую мову прысяжнага перакладчыка),
- заява адпаведнага органа фонду аб намеры стварыць на тэрыторыі Польшчы арганізацыйную адзінку ды аб мэтах, дзеля якіх яна ствараецца (разам з перакладам на польскую мову).

Замежны фонд, які плануе стварыць у Польшчы прадстаўніцтва, павінен даведацца ў адпаведнымі міністэрстве, якія дакументы з'яўляюцца дадаткам да заявы аб выдачы дазволу. Прадстаўніцтвы замежных фондаў, як і зарэгістраваныя ў Польшчы фонды, могуць займацца гаспадарчай дзейнасцю і гэтак жа, як і яны, павінны займацца ёй у рамах, неабходных для ажыццяўлення статутных мэтаў.

Выдача дазволу на стварэнне прадстаўніцтва – гэта тое ж, што і згода на пачатак акрэсленай у дазволе дзейнасці. Дазвол можа быць ануляваны, калі прадстаўніцтва не выконвае ўмоў, апісаных у дазволе, альбо калі сур'ёзна парушае нормы польскага заканадаўства ці дзяржаўныя інтарэсы. Акрамя таго, можна прыпыніць дзеянне дазволу, калі галоўны фонд ці яго прадстаўніцтва шкодзіць бяспецы ці важым дзяржаўным інтарэсам.

## VI. Рашэнні КРС (рэгістрацыя, адмова) і абскарджанне

Пасля падчы таварыствам ці фондам рэгістрацыйнай заяўкі ў КРС застаецца чакаць таго, якое рашэнне прыме суд. У сувязі з гэтым, можна атрымаць
- інфармацыю аб рэгістрацыі – КРС дасылае інфармацыю аб рэгістрацыі таварыства заказным лістом на паштовы адрас, указаны ў фармуляры KRS-W20. З момантам рэгістрацыі ў КРС арганізацыя становіцца юрыдычнай асобай;
- рашэнне аб адхіленні заяўкі ці аб яе звароце (напрыклад, калі яна пададзена ў неадпаведны суд, няма нейкіх фармуляраў ці яны няправільна запоўнены) – у такім выпадку, у залежнасці ад заўваг, можна выправіць заяўку ці абскардзіць рашэнне,



- рашэнне аб адмове рэгістрацыі (напрыклад, калі не створаны патрэбныя ўлады, статутныя мэты супярэчаць заканадаўству) – у такім выпадку, рашэнне можна абскардзіць.

**Што можа стаць прычынай адмовы ў рэгістрацыі?**
КРС выдае пастанову аб адмове ў рэгістрацыі арганізацыі, калі прыйдзе да высновы, што яе статут супярэчыць канстытуцыі і іншым юрыдычным нормам, а стваральнікі арганізацыі не адпавядаюць акрэсленым у законе патрабаванням. Ствараемая арганізацыя не можа ў сваім статуце спасылацца, у прыватнасці, на таталітарызм, нацызм, падбухторваць да расавай нянавісці ці да прымянення насілля (супярэчыць арт. 13 Канстытуцыі РП).

### 1. Што ўплывае на час рэгістрацыі таварыства?
У выпадку таварыства ў суда ёсць тры месяцы ад дня падачы заяўкі, каб прыняць рашэнне аб рэгістрацыі таварыства. Вядома, пры ўмове, што няма ніякіх фармальных хібаў: няпоўнай дакументацыі, няправільная запоўненых фармуляраў, заўваг наконт зместу статута. Калі ёсць недапрацоўкі, то час рэгістрацыі зацягваецца. Такі, а не іншы час рэгістрацыі звязаны з правам старасты, на тэрыторыі якога знаходзіцца сядзіба таварыства, удзельнічаць у рэгістрацыі. КРС дасылае яму копію рэгістрацыйнай заяўкі. Стараста (ці ваявода) на працягу 14 дзён ад даты атрымання заяўкі выказвае сваё меркаванне на яе конт: напрыклад, заўвагі па зместу статута ці пратакола ўстаноўчага схода. Потым заяўка дасылаецца ў КРС.
Таму бывае, што таварыствам, якія праходзяць рэгістрацыю, вяртаюць заяўку з КРС з далучаным да яе лістом з заўвагамі старасты. Калі КРС палічыць іх слушнымі, ён просіць гэтае таварыства ўвесці змены. Гэта азначае, што калі арганізацыя не ўвядзе зменаў і не вышле іх у КРС, яе не зарэгіструюць. Акрамя таго, суд можа проста папрасіць выказацца наконт заўваг органа нагляду (гэта значыць, што калі на думку арганізацыі прапанаваныя змены ў статут ці іншыя заўвагі наконт заяўкі няслушныя, то яна не павінна іх улічваць. У такім выпадку, трэба ў лісце ў суд абгрунтаваць, чаму арганізацыя так лічыць).

### 2. Колькі у суда часу, каб адказаць на рэгістрацыйную заяўку фонду?
Падача заяўкі распачынае рэгістрацыйную працэдуру. Суд разглядае рэгістрацыйную зяўку фонду на працягу 7 (каляндарных) дзён ад даты яе падачы. Калі ў суда няма заўваг наконт пададзеных дакументаў і фармуляраў, ён рэгіструе фонд у КРС, а інфармацыю аб рэгістрацыі дасылае фонду заказным лістом на паштовы адрас, указаны ў фармуляры KRS-W20.
Аднак, калі мы няправільна запоўнім фармуляры, не прадставім усіх патрэбных дакументаў ці не заплацім за заяўку, суд звернецца да нас з просьбай выправіць недахопы. Такія сітуацыі здараюцца часта. Варта ставіцца да іх спакойна. Арганізацыя павінна выправіць памылкі і завіць аб дапрацоўцы заяўкі на працягу 7 дзён ад даты ўручэння ёй судовай пастановы. Тэрмін, прадугледжаны для разгляду выпраўленай заяўкі, распачынаецца ад даты падачы нашай першай, а не выпраўленай заяўкі.

3. Як, каму і калі арганізацыя можа накіраваць скаргу?

З КРС мы атрымліваем інфармацыю аб рашэнні, прынятым суддзёй ці рэферэндарам – напрыклад, ад нас патрабуюць змяніць статут. Калі мы не згодныя з гэтым рашэннем, то можам абскардзіць яго ў КРС. У нас ёсць на гэта 7 (каляндарных) дзён ад даты атрымання рашэння (напрыклад, заказнога ліста). Калі мы падаем скаргу, то рашэнне судовага рэферэндара губляе моц.
Раённы суд разглядае нашую скаргу, як суд першай інстанцыі. Пастанова, выдадзеная раённым судом (першая інстанцыя), абскарджваецца ў акружным судзе (другая інстанцыя). Скарга падаецца праз суд першай інстанцыі на працягу тыдня ад дня ўручэння пастановы. Пастановы суда другой інстанцыі наконт унясення ў рэестр абскарджваюцца шляхам накіравання апеляцыі ў Вярхоўны суд.

**Якія тэрміны абскарджвання, дапрацоўкі недахопаў у КРС для новай арганізацыі?**

Калі суд верне заяўку (няправільна аплочаную ці дрэнна запоўненую), мы можам яе выправіць на працягу 7 ад даты ўручэння звароту (7 дзён пачынаем лічыць ад даты атрымання карэспандэнцыі). Інфармацыя аб тым, колькі ў нас часу, і што трэба выправіць, павінна быць у лісце з КРС. Калі тэрмін неакрэслены, то лічыцца, што ў нас ёсць 7 дзён.
Калі КРС верне заяўку, і мы зноўку правільна яе падамо – тэрмін вырашэння нашай справы ў КРС пачынаецца ад даты падачы першай заяўкі, а не ад даты чарговай падачы правільнай заяўкі (ч. 4 арт. 19 Закона "Аб КРС"). Такая ж сітуацыя тады, калі суд зноў верне нашу заяўку з-за хібаў, на якія першапачаткова не звярнуў увагу суддзя ці рэферэндар.

## VII. Абавязкі таварыстваў і фондаў пасля рэгістрацыі ў КРС (РЭГОН, банкаўскі рахунак, НІП, справаздаўчасць)

Кожная арганізацыя павінна быць зарэгістраваная не толькі ў КРС, але і ў статыстычным упраўленні ды ў падатковай інспекцыі. У статыстычным упраўленні таварыства атрымае нумар РЭГОН, а ў падатковай – НІП. Акрамя таго, арганізацыя павінна адкрыць банкаўскі рахунак.

**Таварыствы і фонды, што будуць займацца гаспадарчай дзейнасцю, карыстаюцца прынцыпам так званага аднаго акна. Гэта значыць, што заява з просьбай прысвоіць нумар РЭГОН і НІП падаецца разам з рэгістрацыйнай заяўкай у КРС. Таварыствы, якія не вядуць гаспадарчай дзейнасці, могуць атрымаць і РЭГОН, і НІП толькі пасля выдачы пасведчання аб рэгістрацыі ў КРС.**



Ніжэй змешчана інфармацыя, якая дапаможа атрымаць нумар РЭГОН і НІП арганізацыям, што не рэгіструюць у КРС гаспадарчай дзейнасці.

**РЭГОН**

Дзе? У статыстычным упраўленні (альбо ў яго аддзяленні), у адпаведнасці з сядзібай арганізацыі. Заяўка падаецца асабіста ці дасылаецца па пошце.
Дакументы: арганізацыя запаўняе фармуляр RG-1 і дадатак RG-RD.
Фармуляры даступныя, у прыватнасці, на сайце www.stat.gov.pl (там жа знаходзіцца і падрабязная інструкцыя запаўнення), у статыстычных упраўленнях і ў іх аддзяленнях ды ў КРС.
РЭГОН выдаецца на працягу 7 дзён ад даты атрымання статыстычным упраўленнем фармуляра RG-1. Калі фармуляр падаецца ў статыстычным упраўленні ці ў яго аддзяленні асабіста, гэта дазваляе адразу ж, на месцы, атрымаць даведку аб нумары РЭГОН.

**НІП**

Дзе? Падатковая інспекцыя, у адпаведнасці з сядзібай арганізацыі.
Дакументы: арганізацыя падае запоўнены фармуляр NIP-2.
Фармуляр NIP-2 можна атрымаць у падатковай інспекцыі ці спампаваць з сайта www.mofnet.gov.pl (у закладцы „Podatki – Formularze podatkowe – NIP" ("Падаткі – падатковыя фармуляры – НІП")). У некаторых падатковых інспекцыях патрэбныя дадаткі, напрыклад, даведка аб нумары РЭГОН, пасведчанне аб рэгістрацыі ў КРС, дамовы на выкарыстанне памяшкання, статут. Практыка бывае рознай, таму варта перад падачай заяўкі атрымаць інфармацыю ва ўласнай падатковай. Нумар НІП чакаюць 2 – 3 тыдні.

**Інфармаванне КРС аб нумарах НІП і РЭГОН**

Аб атрыманым нумары РЭГОН неабходна абавязкова паінфармаваць КРС на афіцыйным фармуляры KRS-Z20, да якога абавязкова далучаецца фармуляр KRS-ZY і даведка аб прысваенні нумара РЭГОН. Гэта датычыць усіх фондаў, незалежна ад таго, ці рэгіструюць яны гаспадарчую дзейнасць, ці не.
Да таго ж, арганізацыі, што рэгіструюць гаспадарчую дзейнасць, на гэтым жа фармуляры заяўляюць аб нумары НІП разам з даведкай аб яго атрыманні. Такім чынам, варта дасылаць гэтую інфармацыю аднačасова. Фармуляры КРС можна атрымаць у судзе, таму варта гэта зрабіць падчас першага візіту ў судзе альбо спампаваць іх з сайта www.ms.gov.pl. Інфармаванне КРС аб нумарах НІП і РЭГОН бясплатнае.

**Банкаўскі рахунак**

Дзе? Любы банк, які паведаміць аб неабходных дакументах.
Арганізацыя сама прымае рашэнне, у якім банку адкрыць рахунак. Пры выбары варта звярнуць увагу на камісійны збор банка, аплату за банкаўскі пералік з рахунку і на рахунак, за выплату наяўных у банкаматах ды на даступнасць філіялаў і банкаматаў.
Пра дакументы, патрэбныя для таго, каб адкрыць банкаўскі рахунак, паведаміць выбраны намі банк.

## VIII. Дзе можна атрымаць інфармацыю наконт стварэння і дзейнасці арганізацыі?

- Інфармацыя для няўрадавых арганізацый: вул. Шпітальна, 5/5, 00-031 г. Варшава[31], тэл. 22 828 91 28, электронны адрас: info@ngo.pl ды інфалінія няўрадавых арганізацый: 801 646 719.
- Партал няўрадавых арганізацый ngo.pl, на якім ёсць, у прыватнасці, сайт poradnik.ngo.pl (дзе можна знайсці інфармацыю пра стварэнне, рэгістрацыю і дзейнасць НГА, прыдатныя ўзоры дакументаў, заканадаўчыя акты і фармуляры КРС) і сайт bazy.ngo.pl (дзе ёсць адрасы парасонавых арганізацый, якія падтрымліваюць іншыя арганізацыі, і адрасы КРС).
- Адрасы аддзелаў КРС можна знайсці на сайце Міністэрства юстыцыі www.ms.gov.pl (закладка "Krajowy Rejestr Sądowy" ("Агульнапольскі судовы рэестр")).
- Тэкст закона пра фонды на ангельскай і рускай мовах знаходзіцца на сайце www.icnl.org (гэта не актуальныя версіі законаў, з улікам апошніх зменаў і дапаўненняў, але яны дазваляюць азнаёміцца з тым, як гэтыя пытанні рэгулюе закон).



## Зноскі

1. Прадмова напісаная аўтарам па-беларуску (заўвага перакладчыка).
2. Асамблея НДА аб'ядноўвае больш за трыста няўрадавых арганізацый і з'яўляецца найбуйнейшым парасонавым аб'яднаннем структур грамадзянскай супольнасці ў Беларусі. З часу свайго заснавання ў 1997 годзе Асамблея НДА неаднаразова спрабавала атрымаць статус зарэгістраванай асацыяцыі – і нязменна сутыкалася з адмовай. Урэшце ў 2011 годзе, пасля чарговай адмовы, Асамблея была зарэгістраваная за межамі Беларусі.
3. Прадстаўленая ў дадзеным раздзеле практычная інфармацыя паходзіць з 1) сайта poradnik.ngo.pl і з заўваг на гэтую тэму, дасланых па электроннай пошце Інтэрнэт-карыстальнікамі; 2) інтэрв'ю з іншаземцамі, якія заснавалі ці засноўваюць арганізацыю ў Польшчы.
4. Перадусім, дзякуем за тое, што сваім досведам, звязаным з рэгістрацыяй няўрадавай арганізацыі, з намі падзяліліся наступныя асобы: Хіжран Аліева (старшыня ўправы таварыства "Каўказскі дом у Польшчы" www.domkaukaski.org); Алесь Зарэмбюк (фонд "Беларускі дом" і фонд "Беларускі інфармацыйны дом", які рэгіструецца); Дзмітры Бародка (сустаршыня "Беларускага дома", рэгістраваў фонд "Еўрапейская Беларусь").
5. *Ustawa Prawo o stowarzyszeniach (заўв. перакл.).*
6. *Ustawa o fundacjach (заўв. перакл.).*
7. *Ustawa o działalności pożytku publicznego i o wolontariacie (заўв. перакл.).*
8. *Ustawa Prawo o stowarzyszeniach (заўв. перакл.).*
9. *Ustawa o fundacjach (заўв. перакл.).*
10. *Krajowy Rejestr Sądowy (заўв. перакл.).*
11. *Art. 17 ust. 4 ustawy Prawo o stowarzyszeniach (заўв. перакл.).*
12. *Ustawa o rachunkowości (заўв. перакл.*).
13. Апрацавана на падставе брашуры з серыі "3w*": *„Jak założyć stowarzyszenie?"*, Informatorium dla organizacji pozarządowych ("Як стварыць таварыства?", Інфарматар для няўрадавых арганізацый), таварыства "Клён/ явар", г. Варшава, 2011.
14. Калі гэта патрэбна, то, безумоўна, іх можна падрыхтаваць і на роднай мове сяброў таварыства, якія не валодаюць польскай мовай, аднак у *КРС* трэба падаць версію на польскай мове.

15. Калі ва ўправе ці рэвізійнай камісіі ёсць іншаземец, у якога няма нумара ПЭСЭЛЬ, то падчас рэгістрацыі ў *КРС* і запаўненні фармуляра *KRS-WK*, ён павінен закрэсліць рубрыку, у каторую ўпісваецца гэты нумар, – сюды можна ўпісаць нумар іншага дакумента, што пацвярджае асобу (напрыклад, пашпарта). Некаторыя таксама раяць, каб у сувязі з адсутнасцю нумара ПЭСЭЛЬ і тым, што яго нельга запісаць *у KRS-WK*, падаць заяву аб адсутнасці нумара ПЭСЭЛЬ і дадаць яе да заяўкі.
16. ЗУС (*пол. ZUS – Zakład Ubezpieczeń Społecznych*) – Фонд сацыяльнага страхавання (*заўв. перакл.*).
17. *Ustawa o KRS (заўв. перакл.)*.
18. *Ustawa o kosztach sądowych* (*заўв. перакл.*).
19. Калі гэта патрэбна, то, безумоўна, іх можна падрыхтаваць і на роднай мове сяброў таварыства, якія не валодаюць польскай мовай, аднак у КРС трэба падаць версію на польскай мове.
20. Калі ва ўправе ці рэвізійнай камісіі ёсць іншаземец, у якога няма нумара ПЭСЭЛЬ, то падчас рэгістрацыі ў КРС і запаўнення фармуляра KRS-WK, ён павінен закрэсліць рубрыку, у каторую ўпісваецца гэты нумар, – сюды можна ўпісаць нумар іншага дакумента, што пацвярджае асобу (напрыклад, пашпарта). Некаторыя таксама раяць, каб у сувязі з адсутнасцю нумара ПЭСЭЛЬ і тым, што яго нельга запісаць у KRS-WK, падаць заяву аб адсутнасці нумара ПЭСЭЛЬ і дадаць яе да заяўкі.
21. ЗУС (*пол. ZUS – Zakład Ubezpieczeń Społecznych*) – Фонд сацыяльнага страхавання (*заўв. перакл.*).
*22. Ustawa o KRS (заўв. перакл.).*
23. *Ustawa o kosztach sądowych* (*заўв. перакл.*).
24. Апрацавана на падставе брашуры з серыі "3w*": *„Jak założyć fundację*?" ("Як стварыць фонд"), Бэата Мар'я Качмарэк, таварыства "Клён/ явар", Варшава 2011.
25. Безумоўна, дакументы могуць быць і на іншай мове, калі гэта патрэбна фундаратам ці сябрам управы, але ў КРС падаюцца версіі на польскай мове.Кантроль дзейнасці фонду ажыццяўляе міністр, якога назаве фундатар. Пры яго выбары варта прааналізаваць асноўныя мэты фонду і назваць таго міністра, з дзейнасцю якога яны больш за ўсё звязаныя. Фундатар можа назваць міністра ўжо на этапе волевыяўлення ў прысутнасці натарыуса альбо пазней, падчас судовай рэгістрацыі.
26. Памеры тарыфу ад паасобных сум у выпадку натарыяльных дзеянняў акрэслівае Распараджэнне міністра юстыцыі "Па пытанні максімальных ставак натарыяльнага тарыфу" ад 28 чэрвеня 2004 г. ("Дзеннік устаў" № 148, паз. 1564 з наступнымі зменамі і дапаўненнямі – *Rozporządzenie Ministra Sprawiedliwości z dn. 28 czerwca 2004 r. w sprawie maksymalnych stawek taksy notarialne*j (*Dz. U. Nr 148, poz. 1564 z późn. zm.*)). Бывае, што натарыусы па-іншаму тлумачаць гэтае распараджэнне і за волевыўлянне – стварэнне фонду – называюць іншыя стаўкі, адрозныя ад прыведзеных у табліцы. У такім выпадку, раім запытаць аб юрыдычнай падставе такой аплаты і, калі трэба, пашукаць іншага натарыуса.
27. Калі ва ўправе ці рэвізійнай камісіі ёсць іншаземец, у якога няма нумара ПЭСЭЛЬ, то падчас рэгістрацыі ў КРС і запаўнення фармуляра KRS-WK, ён павінен закрэсліць рубрыку, у каторую ўпісваецца гэты нумар – сюды можна ўпісаць нумар іншага дакумента, што пацвярджае асобу (напрыклад, пашпарта). Некаторыя таксама раяць, каб у сувязі з адсутнасцю нумара ПЭСЭЛЬ і тым, што яго нельга запісаць у KRS-WK, падаць заяву аб адсутнасці нумара ПЭСЭЛЬ і дадаць яе да заяўкі.
28. На практыцы фонд рэдка вызваляюць ад рэгістрацыйнай аплаты ў КРС. Звычайна, калі фонд падасць такое хадайніцтва, суддзя ці рэферэндар просіць падатковую дэкларацыю фундатара. Вядома, можна падаць хадайніцтва аб вызваленні ад рэгістрацыйнай аплаты, але трэба ўлічыць, што хадайніцтва па дадзенай справе могуць вярнуць, таму, калі хтосьці хоча хутка вырашыць гэтае пытанне, лепш за ўсё адразу заплаціць за рэгістрацыйную заяўку.
29. *Ustawa o KRS* (*заўв. перакл.*).
*30. Ul. Szpitalna 5/5, 00-031 Warszawa (заўв. перакл.).*

